
Тацяна Андрацкая➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Настаўнікі ў Мінску➔5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3309) Год LXIV Беласток, 13 кастрычніка 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сустрэча з купалаўцамі ў Бельскім белліцэі

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску 29 верасня ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку ў рамках тэатральнага фестывалю «Напрамак Усход» з аншлагам паказаў спектакль «Пінская шляхта» па п'есе Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. 30 верасня генеральны дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Ала Фёдарава, мастацкі кіраўнік тэатра, рэжысёр спектакля Мікалай Пінігін і акцёры прыехалі на сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.**

Дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка вядомы жыхарам Беласточчыны перш за ўсё як шматгадовы амбасадар Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Вярнуўшыся ў Беларусь, быў ён міністрам культуры, а пазней амбасадарам Беларусі ў Францыі. Закончыўшы дыпламатычную місію ў Парыжы, у пачатку гэтага года стаў генеральным дырэктарам Купалаўскага тэатра — найстарэйшага тэатра ў рэспубліцы, аднаго з сімвалаў беларускай культуры. Дырэктара Паўла Латушку і прыбылых з ім гасцей прывітаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. Назваў ён Паўла Латушку сябрам белліцэя і падараваў госцю белліцэйскі значок. Дырэктар Андрэй Сцепанюк успомніў супрацоўніцтва з Паўлам Латушкам — першапачаткова як з консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку, а пазней надзвычайным і паўнамоцным паслом у Польшчы, міністрам культуры РБ і амбасадарам РБ у Парыжы.


На спатканні ў белліцэі (злева направа): генеральная консул Беларусі ў Беластоку Ала Фёдарава, генеральны дырэктар Купалаўскага тэатра Павел Латушка, мастацкі кіраўнік тэатра Мікалай Пінігін, артысты Віктар Манаеў і Аляксандр Падабед, дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк

— Мікалай Мікалаевіч Пінігін — наш самы лепшы беларускі рэжысёр і чалавек, які з'яўляецца творчым і духоўным лідарам у мастацтве. Гэта той чалавек, які вельмі моцна цікавіцца культурай. Ім створаны выключныя тэатральныя пастаноўкі ў Беларусі і па-за межамі нашай дзяржавы. Нашы артысты, якія тут з намі, гэта легенды пры жыцці, людзі, якія з'яўляюцца гонарам нашай нацыі, нашай культуры, — прадставіў супрацоўнікаў Купалаўскага тэатра яго дырэктар Павел Латушка. У спатканні ў Бельскім белліцэі ўдзельнічалі яшчэ народны артыст Беларусі Віктар Манаеў і заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Падабед.

— Я хацеў бы вас заахвоціць, каб вы памяталі адкуль вы родам, шанавалі родную мову, уласную культуру, сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў, бо гэта самая галоўная крыніца вашага існавання. Вы вырасцеце, у вас будуць свае сем'і і важна, каб вы перадавалі ўсё гэта сваім дзеткам у будучыні і каб усё ж такі мы захавалі тое, што перадалі нам нашы продкі. Вы павінны ганарыцца, што з'яўляецеся вучнямі, а хутка станеце выпускнікамі беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Гэта адна з самых найлепшых адукацыйных устаноў у Польшчы, прэстыжная навучальная ўстанова і вы ганарыцеся ёй. Нясіце сцяг незалежна ад таго, дзе вам прыйдзецца працаваць — у Парыжы, Лондане, Варшаве, ці тут, на Бельшчыне, — сказаў да бельскіх белліцэістаў Павел Латушка. — Я вельмі вас заахвочваю прыязджаць у Купалаўскі і іншыя тэатры ў Мінску. Асаблівую асалоду ад мастацтва можаце адчуць, зразумець, пабачыць і прыняць у сэрца толькі ў тэатры, дзе асаблівая атмасфера. Пабываючы ў тэатры, навучыцеся адчуваць гэтую выключную асалоду. Калі мы будзем выступаць у Польшчы, пры дапамозе ліцэя або самастойна прыязджайце ў тэатр на нашы спектаклі. Без тэлебачання і інтэрнэту таксама жыць немагчыма. Аднак непасрэдна бачыць як выступаюць акцёры, што задумаў рэжысёр, як ён гэта рэалізаваў, гэтага нідзе не зможаце пабачыць, як толькі ў тэатры. Учора ў Тэатры Вянгеркі я таксама адчуў гэтую атмасферу.

Дырэктар Павел Латушка расказаў вучням гісторыю спектакля «Паўлінка» ў Купалаўскім тэатры:

— «Паўлінка» Янкі Купалы гэта самы вядомы брэндавы спектакль нашага тэатра, які ставіцца з 1944 года. Людзі прыходзілі і прыходзяць на спектакль, а «Паўлінку» ставім мінімум тры разы ў месяц. Мне запамятаўся выпадак, калі дзяўчына і хлопец трымаюцца за руку і ідуць у Купалаўскі тэатр на класічную «Паўлінку», якая мае права быць упісана ў кнігу рэкордаў Гінеса як спектакль, які ставіцца ўжо 75 гадоў.

Мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Пінігін расказаў пра гісторыю сваёй установы:

— У наступным годзе будзем адзначаць 100-годдзе Купалаўскага тэатра. Сто гадоў гэта вялікія традыцыі. Многа артыстаў і іншых працаўнікоў прайшло праз наш тэатр. У нас ёсць крэсла, на якім сядзеў Янка Купала і мы замацуем на ім таблічку з такой інфармацыяй, каб маглі на ім пасядзець наведвальнікі нашага тэатра. У асноўным мы арыентуемся на беларускую літаратуру. Ставілі мы шмат класікі, таму што мы нацыянальны тэатр. П'есу «Тутэйшыя» Янкі Купалы вярнулі мы на купалаўскую сцэну ў дзевяностым годзе. П'еса была забаронена ў 1926 годзе. Сказалі, што гэта нацыяналістычная п'еса і яе немагчыма было іграць у савецкі час. Паколькі яна адна з найлепшых п'ес, у наступным годзе мы зноў будзем ставіць «Тутэйшых» з нагоды юбілею. Раней мы ставілі «Сымона-музыку» Якуба Коласа, «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, «Людзей на балоце» Івана Мележа. У нас ёсць цікавы спектакль «Дзве душы» Максіма Гарэцкага, паколькі ў ім змешчана вельмі важная думка, паказаны дзве душы — заходняга і ўсходняга беларусаў, суісначанне паміж візантыйскай і лацінскай культурамі. Мы ставім не толькі п'есы, але і іншыя жанры літаратуры, прозу. Ставім сучасную беларускую п'есу. Можна было паглядзець у нас вельмі цікавы спектакль па п'есе «Ураджай». У ім паказваем як студэнтаў паслалі на вёску збіраць яблыкі, а яны ходзяць са смартфонамі, без якіх і кроку не могуць ступіць, і падглядваюць, што ім трэба рабіць. У канцы студэнты зламалі ўсе яблыні ўсе галінкі, зламалі скрыні на яблыкі, уключылі музыку і пайшлі шчаслівыя. П'есу «Ураджай», дзякуючы Паўлу Паўлавічу Латушку, мы восеннню вязем паказаць у Парыж. Калі наш дырэктар працаваў амбасадарам у Парыжы, двойчы звазіў наш тэатр у Францыю. Мы паказалі «Пана Тадэвуша». Гэта вялікі спектакль, з вялікімі дэкарацыямі. Мы паехалі ў Парыж да Адама Міцкевіча, дзе ён жыў, дзе пісаў гэтую паэму, пакланіліся яго помніку і кветкі ўсклалі. Было ў нас многа іншых спектакляў і ёсць шмат, шмат іншых планаў.

Мікалай Пінігін запрасіў бельскіх белліцэістаў і настаўнікаў прыязджаць у Купалаўскі тэатр.

— Для мяне, асабіста, Падляшша — дарагая зямля. Шмат сяброў у мяне тут ёсць, у Гайнаўцы і іншых мясцовасцях. У гасцях мы бываем. Маці мая з Палесся. Тут мая родная зямля, — заявіў народны артыст Беларусі Віктар Манаеў і запрапанаваў, што будзе адказваць на пытанні вучняў. Адказваючы, артыст прыйшоў да высновы, што талент дадзены акцёру ад Бога, але вучыцца трэба многа, каб яго пазней разгарнуць.

— Калі з твайго выступу на сцэне смяюцца, адчуваеш радасць. Справа добрая дорыць людзям усмешку, каб жыццё не здавалася ім змрочным. У нашым тэатры было шмат выдатных акцёраў, якія былі таксама цудоўныя як людзі, незвычайныя, цікавыя, з чалавечай глыбінёй. Мы шчаслівыя з Аляксандрам Падабедам, што яшчэ з імі працавалі, — заявіў Віктар Манаеў.

— Чаму трэба прыходзіць у тэатр? Тэлевізар, інтэрнэт — гэта вы самі з сабой размаўляеце. Тэатр аб'ядноўвае і ў ім такое адбываецца, што не разумееш чаму дыхае побач цябе чалавек і ты становішся рабам гэтага дыхання. Раптам зарагатаў хтосьці і ты непасрэдна адчуваеш гэты смех. Тэатр ніколі не загіне. Я гэта наўмысна гавару, але трэба, каб вы прыходзілі ў тэатр, — звярнуўся з заклікам да белліцэістаў заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Падабед.

Віктар Манаеў, пабачыўшы на сцяне кабінета партрэты беларускіх пісьменнікаў, пачаў дэкламаваць па-беларуску. Пазней дэкламацыю працягнуў Павел Латушка, у тым ліку чытаў вершы Віктара Шведа. Напомніў ён, што два гады таму ў Беларусі і ў свеце адзначалася 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і гэтая памятная дата была занесена ў спіс ЮНЕСКА. Дырэктар Купалаўскага тэатра адзначыў, што беларусам ёсць чым ганарыцца — менавіта шматвяковай беларускай культурай і перадаў на рукі дырэктара белліцэя Андрэя Сцепанюка поўнае выданне твораў першадрукара Францыска Скарыны, выдадзенае Нацыянальнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь. Гасцям падарункі ад Бельскага белліцэя ўручылі ліцэісты.

— Думаю, вы зацікавілі нашу моладзь тэатрам і ўсе выйдуць адсюль задаволенымі. Маем надзею на чарговыя сустрэчы, — заявіла белліцэістка перад уручэннем падарункаў. Наведваць Бельскі белліцэй запрашаў купалаўцаў таксама дырэктар Андрэй Сцепанюк.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**





# Каламутны перапіс

„І вось ён вышшаў ва ўсіх сваіх рэгаліях!" — „А якія ў яго рэгаліі?" — „Ну як жа, бронзавы медаль за працу па перапісе 1898 года!". Гэтыя чэхаўскія радкі прыгадаліся мне надоечы, калі размаўлялі мы з калегамі пра чарговы перапіс насельніцтва, які праводзіцца зараз у Беларусі. Амаль праз сто гадоў пасля чэхаўскага персанажа, зусім напрыканцы існавання Савецкага Саюза, пашчасціла і мне быць перапісчыкам і браць удзел у аналагічнай справе. Пашчасціла таму, што няма большай удачы для студэнта, чым датэрмінова здаваць чарговую экзаменацыйную сесію. А менавіта такая ільгота была нам прадстаўлена ў 1989 годзе. Іспыты і перапіс прайшоў я тады паспяхова. Бронзавага медаля мне чамусьці не далі, але памятны значок і яшчэ аловак, таксама з адпаведным надпісам, у асабістай калекцыі засталіся.

Але вернемся ў сённяшні дзень. Чарговы перапіс у суверэннай гісторыі Рэспублікі Беларусь ужо трэці. Але да цяперашняга перапісу ў жыхароў хіба найбольш скепсіс. Недавер гэты грунтуецца на агульным сумненні ў тым, што дзяржава можа абысціся сумленна са сваімі насельнікамі. Перапіс — справа ўвогуле патрэбная і пры сумленным выкарыстанні яго вынікаў безумоўна карысная для кожнай краіны. Але гэта пры сумленным агульным падліку.

Усяго ў перапісным лісце ажно 49 пытанняў. Якія з іх цікавяць найбольш дзяржаву, сказаць цяжка. Беларуская грамадскасць адразу, натуральна, ухапілася за пытанні, якія датычаць моўнай самаідэнтыфікацыі людзей. Пачалася нават грамадская кампанія з заклікам да грамадзян максімальна ідэнтыфікаваць і называць сябе беларусамі. Такая акцыя напэўна патрэбная, але выглядае яна досыць наіўна ў тым сэнсе, што ў краіне, дзе з 1985 года ніхто не лічыць галасоў на ніякіх выбарах, не пададуць, канешне, і сапраўдных, рэальных вынікаў перапісу.

Вынік перапісу па гэтых пытаннях патрэбны дзяржаве выключна для палітычных маніпуляцый. Несумненна, што сапраўдных лічбаў беларускамоўных і тых, хто лічыць мову тытульнай нацыі роднай, мы не дачакаемся. Калі трэба будзе адбівацца ад жорсткіх маскоўскіх абдымкаў, менскі „Чырвоны дом" будзе апеляваць да высокіх (насамрэч завышаных) лічбаў беларускамоўнага грамадства і палохаць Крэмль патэнцыйнай нестабільнасцю. Калі ж наадварот, будзе вырашана чым хутчэй злівацца з Расеяй у аб'яднальным экстазе, то гэтыя лічбы будуць падавацца нізкімі (а насамрэч істотна заніжанымі), для таго, каб тлумачыць, што мы „амаль адзін народ".

Першы канфуз са стаўленнем дзяржавы да мовы тытульнай нацыі здарыўся ўжо. Белстат праз мабільных аператараў зрабіў масавую рассылку смс-паведамленняў з інфармацыяй пра перапіс. Зроблена гэта было выключна на расейскай мове, што выклікала справядлівае абурэнне многіх. Пайшла нават грамадская кампанія скаргаў у дзяржаўную арганізацыю, што займаецца перапісам.

Цэлы шэраг пытанняў перапісу датычыць маёмаснага стану грамадзян. Тут у дзяржавы наўпроставы разлік — людзі павінны самі ўсё расказаць пра сваю працу і маёмасць. Нягледзячы на тое, што розныя дзяржаўныя ўстановы практычна і так маюць усе звесткі пра кожнага грамадзяніна, важна прывучыць кожнага чалавека да таго, каб ён „быў дысцыплінаваным" і ад страху сам усё расказваў пра сябе.

Для дэмакратычнай дзяржавы перапіс служыць найперш патрэбам эканомікі, дэмаграфіі, дазваляе ажыццяўляць планаванне ў розных сферах уладкавання жыцця народа. У аўтарытарнай дзяржаве перапіс найперш — гэта кантроль над грамадзянамі, улік іх маёмасці. Пунктуальныя перапісчыкі занатуюць не толькі ўсю вашу нерухомую маёмасць — кватэры, гаражы, дачныя надзелы, але і перапішуць дакладную колькасць пладовых дрэў, кустоў парэчак на вашых лецішчах, колькасць курэй і таму падобнае. Няма гарантыі, што гэтыя пяць кустоў парэчак ці агрэсту, ці дзясятак курэй ужо бліжэйшым часам не будуць абкладзены адпаведным падаткам. Цікавіць дзяржаву і хто дзе працуе, падзарабляе, асабліва за мяжой. Так што перапіс для чыноўнікаў стаіць у адным шэрагу з сумнавядомым дэкрэтам аб дармаедстве. А якую „рыбку" будуць лавіць дзяржаўныя структуры ў гэтым каламутным перапісе, даведаемся пасля яго завяршэння.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Аб пукачах

Паважаючы чуласць чытача, на гэты раз я напішу пра нешта бянтэжнае, хаця гэтак жа натуральнае, як тое, што дзень устае пасля ночы. Ці той факт, што за ўсімі намі пад сонцам блукае наш больш-менш гарбаты цень. У кожнага свой. Некаторым, напэўна, падабаецца гэтая кампанія, іншым — не. Пры святле сонца ўсё становіцца яркім і ясным. Адразу відно, хто які мае цень. Горш ноччу. Начная актыўнасць ценяў чалавека можа быць такой жа загадкавай, як і блуднай. Аднак нічога не скажаш пра іх таемнае жыццё. Няхай так і застанецца. Так што не глядзіце і не падслухоўвайце іх, не збірайце на іх кампрамат, не падслухвайце іх інтымных размоў, не рабіце кампраметацыйных відэазапісаў з іх удзелам. Давайце будзем жыць уласным жыццём. Не будзем паводзіць сябе як сённяшнія палітыкі, якія псуюць атмасферу Зямлі не горш, чым коміны вугальных электрастанцый. Хоць мы прызвычаіліся да грамадскіх пукачоў, якія яны адпускаюць свабодна, але гэта не значыць, што мы павінны даць на гэта грамадзянскую згоду. Бо пукач пукачу няроўны. Калі прэзідэнт Варшавы заяўляе па тэлебачанні, што раздача 500+ выплат жыхарам Варшавы не можа быць праведзена эфектыўна і своечасова, хаця ўрад пералічыў адпаведныя сродкі, а сталічныя ўлады, хаця і багатыя грашыма, не змаглі залатаць фінансавую дзірку са сваіх рэзерваў, не парушаючы адміністрацыйных працэдур, лідар ПіС, які не з'яўляецца членам урада, таксама па тэлебачанні абвінавачвае яго ў хлусні і сцвярджае, што такія сродкі былі пераведзены на гэтыя мэты некалькі месяцаў таму. Хто сур'ёзна ставіцца да сваёй пасады, хто гаворыць праўду? Ну, той, хто не хлусіць, кажа праўду. За выключэннем таго, што і праўда, і хлусня ў польскай палітыцы падобныя на парніковы газ — нябачны, без паху, таму фізічна ён не паддаецца праверцы. Тым не менш паскудны, таму што гэта паскарае палітычную і ўскосна кліматычную катастрофу. Таму нельга недаацэньваць уплыў палітычных пукачоў на перагрэў зямной атмасферы. Сёлетнія хвалі спякот і засухі ў Еўропе, раставанне Грэнландыі і пажары ў Сібіры і Арктыцы — яркае сведчанне таго, што ідзе змяненне клімату. Асабіста я перакананы, што гэты працэс узмацняецца звычкамі, якія сталі нормай палітычнага жыцця. А, можа, нават этыкі альбо этыкета, асабліва ў Польшчы.

Кожны з нас вырабляе газ. Кожны дзень каля двух літраў. У параўнанні з такой каровай, гэта не так і шмат. Яна выпрацоўвае гэтых газаў некалькі дзясяткаў літраў. Хаця карова вызваляе іх... пысай. У яе гэтак званы «рэзвы дых». Трэба прызнаць, што гэта адначасова элегантна і шчыра. Прынамсі, мы ведаем, што яна зяпае і калі зяпае. З іншага боку, людзям спадабаўся іншы, так бы мовіць, бок. Яны адначасова ўсміхаюцца — пытанне толькі ў тым, ці фальшыва, ці сарамліва. Аднак кожны раз яны робяць пук так, як быццам яго не робяць. У гэтым святле старая прымаўка пра тое, што «лявіца не ведае, што робіць правіца» набывае глыбокі сэнс. А для палітыкаў гэта мае яшчэ больш глыбокае значэнне, калі мы разумеем, што занадта часта ад іх лёсавызначальных рашэнняў, то ёсць таксічных пукачоў, залежаць лёсы — наш і ўсёй Зямлі.

Але, як ужо было сказана, пук пуку няроўны. Прызнаюся, палітычныя мяне брыдзяць. Што тычыцца астатніх, часам я адчуваю сябе героямі французскай камедыі «Суп з капусты» з Луі дэ Фюнам, якія выклікаюць на дапамогу паміраючай Зямлі добрых іншапланецян. Героі фільма, два старыя пердуны, нагадваю, зрабілі гэта пры дапамозе сумленных і радасных пукаў, якія самі па сабе былі вялікай пахвалой звычайнага, здаровага і шчаслівага жыцця. Простага жыцця. Без ілжывай палітыкі, без кантаў. Яны ідуць услед за французскімі мастакамі-пукачамі з Сярэднявечча, якія называліся «брагецёрамі». Яны забаўлялі прагны тлум не менш файна, чым менестрэлі або падарожныя жанглёры. Падобныя забавы ў сярэднявечнай Ірландыі забяспечваліся т.зв. «флатуалістамі». Сучасна, у пачатку дваццатага стагоддзя нейкі Пужоль, які выступаў пад сцэнічным псеўданімам «Пердзілюб», літаральна клаў на зямлю публіку ў знакамітым кабарэ Мулен Руж, выспеўваючы папулярную песню... не вуснамі! Палітыкі, на жаль, робяць наадварот. Якія далёкія, аднак, яны ад майстэрства Пужоля.

Зямля — жывы арганізм, таму яна спажывае, пераварвае і выпукае, як і любая жывая істота, ад чалавека да бактэрый. Справа толькі ў маштабе.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Гайнаўская памяць (2)

Яшчэ добра не адышлі ўспаміны з пабыўкі на юбілеі 70-годдзя беларускага ліцэя, а тут амаль адразу прыйшлося мне вяртацца ў бацькоўскае гняздо, адкуль пачаліся ўсе мае вандраванні за навукай. Аднак думкі, навеяныя размовамі ў час сяброўскай сустрэчы, схілілі мяне да яшчэ некалькіх рэфлексій з незвычайнай падзеі.

Вялікай неспадзяванкай для мяне асабіста і нейкім метафізічным вяртаннем стаў факт, што чарговая сустрэча нашых аднакласнікаў мела месца ў гістарычнай зале № 206, у якой менавіта мне некалькі гадоў прыйшлося працаваць настаўнікам гісторыі ў сваім ліцэі.

Седзячы за партай, глядзеў я на драўлянае аздабленне залы, фундатарам якой быў ліцэйскі аднагодак. Не адмовіў ён мне ў просьбе аб дапамозе. Адстроілі ўвесь клас на грамадскіх пачатках уласнымі рукамі таленавітыя бацькі маіх вучняў. Мае вочы цягнуцца ўгару, дзе на сцяне побач Арла і крыжа вісіць наша Пагоня, якую змясціў я на гэтым месцы ў першы дзень сваёй працы. Моцна парадаваўся факту, што на супрацьлеглай сцяне красуецца вялікі стэнд, прысвечаны стагоддзю Беларускай Народнай Рэспублікі. Стэнд прадстаўляе павялічаную копію нашага ніўскага календара на 2018 год з нашым лагатыпам з сімваламі і героямі БНР. Такім чынам проста відаць, што наша ніўская праца дала станоўчы плён і трапіла не толькі пад сялянскія стрэхі, але і ў адукацыйную ўстанову, што павінна вучыць маладых людзей і ўласнай, беларускай гісторыі. Вучыцца нам трэба ўвесь час і маладым і старым. Без пастаяннага чытання і назапашвання ведаў з усяго беларускага свету мы становімся безабароннымі дзікунамі перад сучаснымі каланізатарамі з Усходу і Захаду. Сечка ў галовах замест ведаў — самы пажаданы і выгадны стан чалавечых мазгоў для любой сённяшняй уладна-карпаратыўнай структуры. У нашым выпадку тоеснасць, характэрная так званым простых людзям, праваслаўным палякам, міфалагічным тутэйшым, рускім — якраз на радасць толькі варажэнькам нашым.

Над дзвярыма перад уваходам у гістарычную залу вісіць надпіс, які мне здаваўся самым лепшым у маіх намерах адлюстравання таго, чым з'яўляецца спалучэнне нашай гісторыі з агульначалавечымі падзеямі і пошукамі. Я проста пакарыстаўся мудрагелістымі словамі старажытнага Платона, што «веды ёсць сілаю да перамогі». Навошта выдумваць порах, які ўжо даўно прыдуманы. Трэба толькі вытрымкі і адказнасці, каб запаветныя словы былі ў штодзённым нашым і нашых вучняў карыстанні, так як і ў выпадку ўсёй адукацыйнай сферы. Будучы настаўнікам у сваім ліцэі, да якога заўсёды марыў трапіць на працу, спадарожнічала мне адна думка: праз веды навучыць моладзь думання і адказнасці — чалавечай і беларускай. На колькі мне гэта ўдалося, самому цяжка ацэньваць.

Напэўна аднак у час з'езда колькасць размоў з маімі былымі вучнямі дазволіла мне цешыцца іхнімі поспехамі. Таксама не менш важнай была радасць ад іх яснага пацвярджэння сваёй беларускасці. Хаця ў большай частцы яны ўжо польскамоўныя, але з кожным з'ездам назіраю такую тэндэнцыю, відавочную хіба з узростам. Тыя, якія пяць ці дзесяць гадоў таму назад са мной яшчэ не размаўлялі па-свойму, зараз з усіх сіл стараюцца хаця б крыху пагаварыць. Відавочна, ад сваіх моўных генаў таксама нікуды не дзенешся. Цікава было мне паслухаць маладых беларусаў, якія робяць кар'еру па ўсёй Польшчы і Еўропе, але маю ўвагу звярнулі перш за ўсё паўсюдныя іхнія словы, што не ўяўляюць жыцця без роднай Гайнаўшчыны, ці Беласточчыны. Большасць з іх намерваецца будаваць тут, на радзіме, паралельныя аазісы свайго адпачынку і трывалай прысутнасці. Вельмі знамянальным і відавочным ёсць прысутнасць на Гайнаўшчыне пакалення, якому больш за сорак. Жывуць яны, працуюць цяжка і складаюць аснову і сілу нашых беларускіх калектываў. Вялікая падзяка Вам за тое, што ёсць у нас надалей разуменне важнасці быцця беларусамі. Бо як не круці, а перад нашым ліцэем цяжкія гады. А ўсё ж, вядома, па прычыне дэмаграфіі Гайнаўскага павета. Але калі некалькі нашых сямейных пакаленняў вучылася ў сваім ліцэі, то трэба спадзявацца, што і стагадовы юбілей ліцэя надалей будзе жывой сустрэчай вучняў са сваімі старэйшымі выпускнікамі. Гэтага ўсім абітурыентам, вучням і сабе жадаю!

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Разлічваю толькі на сябе, бацькі не маюць калі

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Маёй марай заўсёды была праца з дзяцьмі і я ад пачатку сваёй дзейнасці дапамагала малым пацыентам. Прыехаўшы ў Польшчу, з цягам часу пачала працаваць у школе і навучаць дзяцей беларускай мове.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Маім ідэалам настаўнікаў роднай мовы заўсёды былі мае бацькі.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы з іншых школ? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Трымаю кантакт з Алінай Ваўранюк, Людмілай Сегень, Асяй Марко, Ірэнай Яблушэўскай, Элізай Дудаль, Уляй Шубздай.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Мне дапамагаюць школы, у якіх працую, а канкрэтна дырэкцыя, гміна, войт.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У нас няма беларускіх праектаў.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс «Пазнай Беларусь», тэатральны конкурс.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Разлічваю толькі на сябе, паколькі бацькі не маюць калі, бо яны заняты гаспадаркай.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Здаецца, што складанасць. Цяпер дзеці маюць іншыя каштоўнасці, патрэбнасці, інакш глядзяць на добраахвотную працу. Іх цікавяць іншыя цэннасці. Яны з'яўляюцца матэрыялістамі.

**— Ці можаце зрабіць усё за 3 гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Не магу. Мне здаецца, што гэта немагчыма.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— На жаль, няма.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі, на жаль, немагчыма атрымаць, асабліва для малодшых класаў.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Літарынка», «Лемантар», «Заранічка».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Мой любімы беларускі аўтар гэта Васіль Быкаў.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Цяпер чытаю Уладзіміра Арлова „Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань" і „Пайсці, каб вярнуцца" Галіны Тварановіч.

Фота Улі ШУБЗДЫ



**Тацяна АНДРАЦКАЯ** нарадзілася 8 ліпеня 1970 года ў Скідзелі на Гродзеншчыне. Закончыла Гродзенскае медыцынскае вучылішча па спецыяльнасці медыцынская сястра і працавала ў гэтай прафесіі больш за шэсць гадоў. Пасля паступіла ў Інстытут усходнеславянскай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта, дзе атрымала ступень магістра беларускай філалогіі і бакалаўра рускай філалогіі. Закончыла паслядыпломныя курсы па музыцы і пластыцы (выкладае ў школе пластыку), а таксама па алігафрэнапедагогіцы і аўтызме (працуе з дзеткамі, якія пакутуюць ад аўтызму і сіндрому Аспергера). Працуе ў школе ў Бабіках і Шудзялаве 14 гадоў і 6 месяцаў. Жыве ў Саколцы.




■ Тацяна АНДРАЦКАЯ з вучнямі на тэатральным аглядзе

**— Ці прывіваеце вучням цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаем з дзеткамі „Ніву", часопіс „Вясёлка".

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— ...

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Так, размаўляю.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Так маю, на іх вучуся.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Хуткі тэмп жыцця — бяжыш, спяшаешся.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Не ведаю, ці яны вядомыя, але таленавітыя маладыя людзі працягваюць навуку ў вышэйшых навучальных установах.

**— Ці атрымлівалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, атрымала і не адзін раз. Былі гэта ўзнагароды дырэктара і войта Шудзялаўскай гміны.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Праца, праца і яшчэ раз праца. Поспехі мае і маіх вучняў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Поспехі вучняў, зацікаўленасць дзяцей, іх удзел у мерапрыемствах, экскурсіях.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Сцяг, герб, васілёк, ручнік.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Будучыня залежыць ад нас саміх.

Размаўляла **Ганна КАНДРАЦЮК**

## Кузаўскі ўспамін (5)

Цяжка пісаць аб мінулых падзеях Кузавы ў храналагічным парадку, калі няма сведак, ані дакументальных запісак. Вось хоць бы добраўпарадкаванне рэчышча Нурца. Падзея варта напаміну. А ў якім гэта годзе праходзіла, дакладна не памятаю. У гміне не ведаюць. Ніякіх дакументаў. Мой сардэчны сябра Павел Шыманюк, які зараз працуе кіраўніком Павятовага цэнтра дапамогі сям'і ў Гайнаўцы, сказаў мне такое: «Калі я працаваў у чаромхаўскай гміне ў сельскагаспадарчым аддзяленні, дык у 1979 годзе рэчышча было паглыблена і пашырана, а берагі абкладзены плеценай фашынай. Фашына была цёмная, значыцца, даўно пакладзена. Лічу, што работы праходзілі ў пачатках шасцідзесятых гадоў». І я з гэтым згодны. Памятаю, што землечарпалку абслугоўваў Шурка, швагер начальніка мытні ў Чаромсе Казіміра Краўчука. Выходзіў з Крынак. Я пасябраваў з Шуркам. Праводзілі разам шмат часу. Я захапляўся, што Шурка размаўляў на беларускай мове.

Пры забеспячэнні берагоў фашынай працавалі хлопцы з Малочак. Кватаравалі яны ў Глупні ў спадарыні Саевіч. Я заходзіў да іх пагуляць у карты. З гэтай кампаніі прыпамінаецца мне Янка Гапанюк і Янка Маркевіч. Калі мы пазней заязджалі ў Малочкі з кінаперасоўкай, дык да Янкі Маркевіча я заходзіў на начлег. За амаль сем гадоў нашага знаёмства парадніліся мы быццам браты. На Яўфімію запрашалі ў госці. Матуля сябры заўжды частавала свежым аржаным духмяным хлебам, а мужыкі — семачкамі сланечніку і дыні. Янкі Санькавага, як называлі яго аднавяскоўцы, даўно няма ў жывых. Паспрабаваў я наладзіць кантакт з Янкам Гапанюком, але не атрымалася.

Самай цікавай справай было ачышчэнне става пры вадакачцы. Перад ставам зрабілі загаты з аднаго і другога боку для запруджвання вады. Працавалі дзве помпы. Калі вады стала нямнога, работнікі лавілі рыбу рукамі. Пасля ім забаранілі і для аховы паставілі вартаўнікоў Службы аховы чыгункі. Здабытую затым рыбу варшаўская вярхушка цэнтральнай дырэкцыі вывозіла мяшкамі. Неўзабаве пасля ачышчэння става на дарозе з Кузавы на станцыю разбурылі драўляны мосцік на рэчцы ды збудавалі бетонны з балюстрадамі. Прыпамінаю надпіс на бетоне: «Мост будаваў Янка Сідарук, а дарожным майстрам у Кляшчэлях быў Мар'ян Якубоўскі».

Колькі часу заняло добраўпарадкаванне рэчышча Нурца, цяжка сказаць. Фактам з'яўляецца тое, што пасля паглыблення рэчкі ўзровень вады павысіўся. Вада стала чыстай, крынічнай, бо ў рэчку выцякалі дзве крыніцы: адна знаходзілася насупраць забудовы Афанасія Раманчука, другая — насупраць Яна Шатыловіча (Дзмітравага). На той крыніцы ў мінулым на Вадохрышча свяцілі ваду. Пасля камасацыі зяць пакойнага Яна Шатыловіча крыніцу агарадзіў, затым асвячэнне вады адбывалася ў мясцовай царкве. На шасцідзясятыя гады выпадае іншая падзея — перабудова вясковай вуліцы. Але аб гэтым у чарговым адрэзку.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Новыя прыпынкі

Напрыканцы верасня гэтага года паабапал ваяводскай дарогі № 687 на калёніі вёскі Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета паставілі два жалезныя слупкі з лагатыпам PKS. Стаяць яны ў тым месцы, дзе да шашы прымыкае гравійка, якая вядзе да парафіяльных могілак і далей, між іншым, да агратурыстычнай сядзібы „Бора-Здруй".

Цяпер некаторым наваляўкоўцам стала куды выгадней — ужо зараз не трэба ім ісці або бегчы з калёніі на аўтобусны прыпынак у сярэдзіне вёскі. Жыхары чакалі і дачакаліся. Можа з часам тут у полі і на ўскраіне лесу будзе і навес дзеля таго, каб пасажырам было дзе схавацца ад халоднага восеньскага дажджу або снежнай завеі. Вельмі добра было б. **(яц)**

# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам (ч.ІІ)

**Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. Два галасы ў завяршэнне пленарнай сесіі, пра якую было ў папярэднім нумары:**




**Анджэй Садоўскі**, заснавальнік і старшыня Даследчага цэнтра імя Адама Сміта: — Еўрасаюз не выйшаў з крызісу 2008 года і забудзьма пра еўрасаюзныя грошы — тых абяцаных няма. Тое, што можам зрабіць без аглядкі на Еўрасаюз, гэта запуск уласных фінансавых сродкаў. Аднак, каб імі скарыстацца, трэба змяніць у Польшчы якасць законаў. Падатковыя законы ў Польшчы і іх інтэрпрэтацыя змяняюцца ў сярэднім кожныя два дні. А сістэма падатку ПДВ (VAT) налічвае паўтара мільёна старонак, чаго няма ў іншых еўрасаюзных краінах. Маем адну з найгоршых падатковых сістэм, не беручы пад увагу велічыні падаткаў. Сусветны банк лічыць, што зменнасць падатковых законаў найбольш дэструктыўная. Ад змены якасці заканадаўства залежыць ці ў Польшчы будуць інвестыцыі. На пытанне чаму не інвестуе ў Польшчы, шэф аднаго з амерыканскіх фондаў адказаў, што складана ацаніць рызыку, звязаную са зменлівасцю польскіх законаў.

**Цэзары Казьмерчак**, старшыня Асацыяцыі прадпрымальнікаў і працадаўцаў: — З прычыны зменлівасці законаў прайграваем з многімі еўрапейскімі краінамі, але падаткі ў Польшчы рэлятыўна не так высокія, як у іншых еўрапейскіх краінах. Зблытанасць польскіх законаў і іх частыя змены маюць негатыўны ўплыў на інвестыцыі ў нас: гэта асноўны бар'ер для інвестыцыйных рашэнняў.

Пасля пленарнай сесіі ўдзельнікі Кангрэса абмяркоўвалі эканамічныя праблемы Усходняй Польшчы на панэльных форумах, якія адбываліся паралельна і не было мне магчымасці быць на ўсіх прысутнічаць. Таму толькі абмяжуюся да тых, якім я мог прыслухоўвацца, якія я выбраў. Спадзяючыся, што закранутыя ў іх праблемы найбольш датычныя нашых спраў.

Тэмай першага з іх было „Трансгранічнае супрацоўніцтва — вопыт і перспектывы". У асноўным спадзяваўся я тут абмеркавання пытанняў польска-беларускага супрацоўніцтва, бо ж у ліку ўдзельнікаў былі пералічаны м.інш. амбасадары Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі ды Беларусі ў Польшчы Уладзімір Чушаў, сустаршыня Польска-беларускай парламенцкай групы Мечыслаў Башко ці старшыня Польска-беларускай прамыслова-гандлёвай палаты Лешак Фальтыняк. Атрымалася больш агульна...

Амбасадар **Артур Міхальскі**: — Здаецца мне, што зараз маем лепшую пагоду ў польска-беларускіх узаемаадносінах. Абодва бакі разумеюць, што наша суседства, знітаванае вякамі і культурнай супольнасцю, павінна ўспрымацца як шанс, я не як свайго роду пагроза. Такі падыход генеруе адпаведныя бізнесовыя ці культурныя паводзіны. Мяркую, што зараз штораз больш асоб вызваляецца са свайго роду стэрэатыпаў, дамінантных у Польшчы пра Беларусь, ці ў Беларусі пра Польшчу. Цягам года маёй прысутнасці ў Мінску не заўважыў я, каб дэлегацыі з Польшчы ў Беларусь, якія прыязджаюць штораз часцей, выязджалі адтуль з адмоўным стаўленнем; відаць ахвоту да супрацоўніцтва. І некаторыя штучныя бар'еры зараз малеюць і — сонца свеціць, дождж падае і трава расце. Маем вялікае двухбаковае запатрабаванне таго, што параджае суседства, гэта кранае і бізнес, і культуру. Людзі едуць да сябе ахвотна. Паводле мяне паволі нараджаецца тая свядомасць, што наш палітычны дыялог мусіць дапамагчы гэтаму працэсу, а не ствараць бар'еры і перашкаджаць. Але гэта не абазначае, што ўсе праблемы рашаюцца — шмат праблем надалей нявырашаных. Адной з такіх важнейшых праблем з'яўляецца афірматыўны падыход да нацыянальных меншасцей. І вельмі важна, калі абодва бакі будуць мець афірматыўнае стаўленне да сваіх меншасцей, што ў Польшчы мае месца. Была згадка пра сінусоідную інтэнсіўнасць кантактаў; спадзяюся, што цяпер будзе інакш, што паказальнік гэтых кантактаў не будзе малець і трэба старацца, каб ён падніма́ўся.

**Лешак Фальтыняк**: — Шчыра скажу, што тыя захады на палітычным узроўні не адчуваюцца поўнасцю ў рэальнай гаспадарчай дзейнасці. Мы прысутныя на тым рынку, даем рады, мы добра з сабою згаворваемся, тут важная тая культурная блізкасць, але пастаянна не хапае нам тых дадатковых узаемапаразуменняў, калі мы мусім дастасавацца да законаў іншай дзяржавы, да яе юрыдычных норм, да падатковай сістэмы. Тых дадатковых паразуменняў, якія спрашчалі б кантакты ў міжнародным абароце. Каб сертыфікацыі і паўнамоцтвы спрошчана пераносіць у другую краіну; гэтага нам не хапае. Таксама дазволы на працу і падатковыя сістэмы патрабуюць узаемадапрацоўкі. Цяпер яны ўскладняюць нашы кантакты. Шмат яшчэ астаецца работы пры спрашчэнні ўзаемасупрацоўніцтва.

**Цэзары Цесьлюкоўскі**, старшыня канвента Еўрарэгіёна „Нёман": — Еўрарэгіёны працуюць шмат гадоў на ўзмацненне трансгранічнага супрацоўніцтва. Еўрарэгіён „Нёман" мае шмат дасягненняў ва ўзаемным супрацоўніцтве, але гэтая формула паволі вычэрпвае свае магчымасці. Не ўдалося ў нашых усходніх партнёраў дабіцца таго перакананя, што трэба дзяліцца адказнасцю за распараджанне еўрасаюзнымі сродкамі з пазаўрадавымі арганізацыямі. Там вельмі моцная прывязанасць, і мяркую, што яна няскора зменіцца, каб збіраць усю ўладу і кампетэнцыі ў руках урадавых устаноў. І той брак даверу да пазаўрадавых арганізацый вельмі відочны і тыя дзяржавы за нашай усходняй мяжой нічога не робяць каб збудаваць канструкцыю з пазаўрадавых арганізацый і адносіцца да іх па-партнёрску, асабліва калі гэта кранае супрацоўніцтва з грамадствам. Таму паявілася ініцыятыва, ужо ў 2006 годзе, але эвалюіравала яна з таго часу і паволі выспяваем да паўстання Еўрапейскай групоўкі тэрытарыяльнага супрацоўніцтва (ЕГТС) на нашай усходняй граніцы. Загваздка гэтага распараджэння еўрасаюзных улад у тым, што яно адносіцца да краін-членаў Еўрасаюза, а значыць у нас яна можа ўзнікнуць толькі на граніцы з Літвою. Дапускаецца такі варыянт, што ЕГТС можа ўключыць суб'екты з-па-за ЕС пры ўмове, што прымуць яны той юрыдычны парадак, які ў дадзенай членскай дзяржаве, у тым выпадку ў Польшчы. Такіх размоў пакуль не было. Мы пакуль на этапе фармулявання такога запытання да беларускіх улад, затое такія працы на польска-літоўскім памежжы ўжо далёка прасунуты. ЕГТС ставіць шмат праблем, парадку спектра задач, якімі такі суб'ект можа заняцца, крыніц фінансавання праектаў, на якія згадзіліся б бакі, куды згадзіліся б перадаць свае кампетэнцыі. Дагэтуль складана было згаварыцца, якую частку бюджэтных сродкаў на гэта прызначыць і г.д.

Выступленні ўдзельнікаў панэля ў агульнасці датычылі юрыдычных праблем, але было і адно канкрэтнае выступленне. Гайнаўскі староста **Андрэй Скепка** пахваліў супрацоўніцтва ў рамках Еўрагэгіёнаў „Нёман" і „Белавежская пушча", звяртаючы ўвагу, што здзяйсняюць яго канкрэтныя людзі. І тут ён выказаў задавальненне стаўленнем да справы ў консульствах Беларусі ў Беластоку і Польшчы ў Гродне, затое незадавальненне працай Консульства РП у Брэсце, якая спараджае лішнія затраты часу і сродкаў. На ягонае пытанне, ці апраўданыя чуткі пра падрыхтоўку пагранперахода ў Ялоўцы, адказу не было.

Чарговы панэль датычыў глабалізацыі, экспансіі і кааперацыі. Прынялі ў ім удзел польскія гаспадарчыя дзеячы. Расказвалі яны пра пошукі гаспадарчых плацдармаў у адлеглых краінах, у тым ліку ў Азіі, Афрыцы і Амерыцы. Тут таксама праблемы юрыдычных норм, але не толькі. Бо ж у далёкіх краінах часта заміж ясных прававых норм нормай з'яўляюцца капрызы паасобных чыноў. Да таго ж, падобна як староста Андрэй Скепка, прамоўцы звярталі ўвагу на працу польскіх замежных прадстаўніцтваў. А бывае там па-рознаму. Ёсць там людзі заангажаваныя, якія шчыра дапамагаюць польскім прадпрымальнікам праходзіць правава-культурныя лабірынты ў далёкіх краінах, а ёсць і такія, якім справы радзімых прадпрымальнікаў абы з рук збыць...

(працяг будзе)

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Візіт настаўнікаў у Мінску: частка большага працэсу?

**З 16 па 21 верасня ў мінскай Акадэміі паслядыпломнай адукацыі прымалі дэлегацыю настаўнікаў беларускай мовы з Польшчы. Для польскіх настаўнікаў у АПА падрыхтавалі шырокую адукацыйную і культурную праграму. Адукацыйна-культурны тыдзень для настаўнікаў завяршыўся ўручэннем сертыфікатаў. Пра супрацоўніцтва ў карысць беларускага школьніцтва «Ніва» размаўляе з рэктарам АПА Андрэем Манастырным.**

**— Майстар-класы для настаўнікаў беларускай мовы з Польшчы праходзяць у рамках рэалізацыі пагаднення па адукацыі паміж урадамі Беларусі і Польшчы.**

— Заўсёды Міністэрства адукацыі РБ аддае ўвагу гэтай рабоце і мы заўсёды рады прыняць сваіх калег з Польшчы. Так, звычайна штогод мы арганізуем такое навучанне. У мінулым годзе, а таксама раней такія курсы адбываліся найчасцей у час канікул. Сёлета мы вырашылі правесці майстар-класы ў верасні. Часам прыязджаюць настаўнікі з Літвы, там таксама вядзецца навучанне беларускай мове, але гэта звычайна адзін, два чалавекі і яны далучаюцца да групы настаўнікаў з Польшчы.

**— Кожны дзень майстар-класаў быў расписаны, каб, паводле арганізатараў, правільнае размеркаванне часу дазволіла ўдзельнікам курсаў максімальна ўсё ўбачыць і пачуць. Чым кіруецеся рыхтуючы праграму такіх майстар-класаў?**

— Перш за ўсё мы хочам зрабіць яе як мага больш рэпрэзентатыўнай і цікавай. Стараемся прадставіць беларускую методыку выкладання, прадставіць навуковыя дасягненні ў галіне філалогіі і літаратуразнаўства, прадставіць метадычныя напрацоўкі ў кантэксце выкладання беларускай мовы ў школе. Паколькі вывучэнне мовы гэта не толькі філалагічны, але і культуралагічны кантэкст, мы шмат увагі надаем культурнай праграме. Гэта наведванне спектакляў, музеяў — значных месцаў беларускай культуры. Кожны год праграма аднаўляецца. Мы таксама ўлічваем пажаданні нашых гасцей. Заўсёды робім адваротную сувязь — падводзім вынікі, размаўляем аб тым, што спадабалася, што не, што магчыма можна было б зрабіць лепей, якія ёсць яшчэ чаканні. Не робім кожны год такой жа самай праграмы, заўсёды аднаўляем змест.

**— Што сустракаецца з найбольшай зацікаўленасцю з боку настаўнікаў з Польшчы?**

— Вядома, у настаўнікаў, без розніцы з якой краіны, па якой яны дысцыпліне, заўсёды яны добра прымаюць майстар-класы, знаёмяцца з працай сваіх калег. Таксама добра прымаюць наведанне ўстаноў адукацыі, дзе яны могуць паглядзець сваімі вачамі, як у нас навучаецца. Ну і абавязкова змястоўныя лекцыі, актыўныя заняткі, якія дазваляюць ім папоўніць свой метадычны запас.

**— Настаўнікі з Польшчы мелі магчымасць наведаць Гімназію № 4 у Менску, якая лічыцца беларускай. Намеснік міністра адукацыі РБ пытаў настаўнікаў з Польшчы, што з'яўляецца галоўнай перашкодай у матывацыі вучняў. Мне здаецца, што менавіта рускамоўнасць беларускіх школ.**

— Я згодны з тым, што калі вучні вывучаюць беларускую мову толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры, то звычайна такая матывацыя абмежаваная, таму што мова не выглядае як рабочая. Калі б яны вывучалі іншыя прадметы: гісторыю, матэматыку, фізіку і іншы любы прадмет, то з метадычнага пункту гледжання гэта было б вельмі карысным для вывучэння мовы. Магчыма таксама нам трэба гэта рабіць і ў гэтым напрамку рухацца, можа так будзе ў нас. Пабачым.





**— Так як мы ўжо згадвалі, у час сёлетніх майстар-класаў настаўнікі беларускай мовы сустрэліся з намеснікам міністра адукацыі Аляксандрам Кадлубаем, які абяцаў большую падтрымку з боку Беларусі. Ці словы міністра здзейсняцца і беларускі бок будзе клапаціцца школамі з беларускай мовай у Польшчы?**

— За падтрымку мовы меншасці адказная дзяржава. Мы падтрымліваем польскую мову тут, у Беларусі.

**— Польшча таксама падтрымлівае беларускую меншасць і адначасова не забываецца пра польскую ў Беларусі.**

— Візіт настаўнікаў гэта частка такога працэсу. Перш за ўсё павінен быць інтарэс у людзей у Польшчы да вывучэння беларускай мовы. Што тычыцца дапамогі ў гэтай справе, я пачуў ад намесніка міністра, што ў яго ёсць такія намеры і мы абмяркоўвалі, што магчыма было б карысна накіраваць у Польшчу нашых настаўнікаў, якія маглі б даць майстар-класы там, на месцы, пазнаёміцца, прэзентаваць нашы методыкі. Я веру, што ён мае намер гэта ажыццявіць.

**— Ведаю, што нашы настаўнікі беларускай мовы неаднойчы ганарыліся сваім педагагічным вопытам перад настаўнікамі з Беларусі. У нас дзеці вывучаюць беларускую мову як родную, але ў Вас не так многа больш урокаў адведзена для гэтага прадмета.**

— Я лічу, што трэба займацца гэтым пытаннем і пашыраць падтрымку. Колькі б не зрабіў для беларускай меншасці, для сваіх суайчыннікаў за мяжой, гэтага ніколі не будзе многа. Чым больш мы можам зрабіць, тым лепш. Я думаю што Міністэрства адукацыі і дзяржава ў цэлым паклапоцяцца і зробяць больш чым зараз. Мы спадзяемся на гэта.

**— А Вы самі завяршылі беларускамоўную школу?**

— Наша школа была рускамоўная, з першага класа. Я нарадзіўся і вырас у Мінску і тут заўсёды большасць школ была рускамоўная, але беларускую мову вывучалі добра. Для мяне беларуская мова зусім натуральная, я патрыёт беларускай мовы і лічу, што мы павінны яе падтрымліваць і развіваць.

**— Дзякую за размову.**

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Адляцелі жураўлі

Шматлікія пералётныя птушкі ўжо адляцелі ад нас у вырай. Буслы збіраліся на сеймікі і пакінулі свае вялікія і ёмкія гнёзды (былі яны пераважна на слупах) напрыканцы жніўня, хаця здараліся і ранейшыя адлёты. У верасні падаліся на поўдзень чародкі дзікіх гусей. Ляцелі яны невялікімі групкамі пад вечар і час ад часу па-свойму пераклікаліся. Мне падалося, што на іх мове былі гэта развітальныя гукі.

Жураўлі сёлета адляталі ад нас у двух тэрмінах: напрыканцы верасня і 4 кастрычніка. Перад першым адлётам чуваць было іх галосныя нарады-спрэчкі, мабыць, навошта гарачыцца спяшаць у далёкую дарогу, надвор'е ж было даволі цёплае, ласкавае і адтуль неахвота пакідаць любімыя мясціны. Але калі значна пахаладзела, жоравы адляцелі з журботным крыкам (так склалася, што слухаў іх пасля поўдня над ракой Нараўкай у Нараўцы, калі чакаў прыезду рэйсавага аўтобуса). Што ж, так яно ёсць, прыйшла тая пара. Час і пара. Дык, жураўлі, да сустрэчы ў нашых ваколіцах вясной. Будзем чакаць.

**(яц)**

## Бар на пасёлку

Па вуліцы Новай у Нараўцы Гайнаўскага павета ўжо другі год працуе прыгожы бар. Ён на пасёлку жыллёвага кааператыва. Тут побач філіял нарваўскай фірмы „Пронар", бензастанцыя, будынкі пагранзаставы, школа. Бар працуе цэлы тыдзень, з тым, што па суботах і нядзелях ад 12-й гадзіны. Вядуць яго дзве маладыя ветлівыя жанчыны з суседняй вёскі. У бары столікі на дваццаць месцаў. Светла тут (вялікія вокны), цёпла і ўтульна. На сцяне вісяць вышываныя макаткі і ручнічкі з народнай беларускай вышыўкай. Адчуваеш сябе, як у родным доме. Абеды тут з дзвюх страў і каштуюць 20 злотых. Можна есці на месцы або ўзяць з сабою на вынас. З кастрычніка г. г. я браў гарохавы суп і катлетку з бульбай, а на другі дзень — суп з грыбоў і варанае мяса з соўсам. У суботу і нядзелю моладзь прыходзіць пасядзець, выпіць каву, гарбату або піва. Ёсць марожанае розных смакаў. У бары можна паглядзець тэлепраграму. Варта дадаць, што зімой гарачы суп з г.зв. укладкай возяць у тэрмасах лясным работнікам Надлясніцтва Броўск і пагранічнікам, якія сцерагуць нашу дзяржаўную мяжу ўдзень і ноччу. **(яц)**

## Адкуль гэта бярэцца?

Два гады таму як уступіў у сілу закон РОДО (палажэнне аб абароне персанальных даных), у адпаведнасці з еўрасаюзнымі ўказаннямі. А як гэта ў сапраўднасці маецца? Прыкладаў не трэба далёка шукаць — першы з краю: больш дваццаці гадоў карыстаюся электроннай поштай. Як даўней, так і зараз паштовая скрынка затканая рознага віду рэкламамі ды прапановамі. Быццам сметніца. Адкуль сталі даступнымі мае персанальныя даныя, э-мейл ці тэлефон дамулькам, якія рэкамендуюць рознага віду прэпараты для інтымнага прымянення? Я ж нікому сваіх даных не перадаваў. А штодзень у паштовай скрынцы засякаю некалькі дзясяткаў. Не тычыцца ніводнай рэкламы, ніводнай прапановы. Проста, выкідаю, быццам непрыдатнае смецце. Быў бы я вельмі ўдзячны таму, хто падкажа, як вызваліцца ад усялякага віду назойлівых прайдзісветаў і ашуканцаў.

**(ус)**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Гарадок у колерах любові

Мы спыталі ў Натwebsкі, чаму яна ходзіць на ўрокі.

— Бо люблю! — адказала трэцякласніца.

І цэлы клас паўтарыў яе словы: бо люблю, бо люблю...

Гэта быў ужо шосты па чарзе ўрок, але дзеці не спяшалі да хаты. Яны чакалі моманту, каб расказаць пра сябе і заспяваць песеньку «Настаўнікі». Але раней мы прыкмецілі магутны дуб, які з цікавасцю заглядаў праз акно ў клас. На галінках сярод зялёнага лісця віселі жалудкі ў шапачках. Каб расказаць пра дрэва і радасць ад збірання жалудкоў, мы прачыталі вершы Міры Лукшы з навейшай «Зоркі». Гэты верш мы галубілі як дзіцятка. Ён нарадзіўся чатыры дні таму ў нашай рэдакцыі, таму гаварылі пра яго з чуласцю і ласкай. Пагаманіць пра дрэвы заахвоціла нас таксама загадка з апошняга нумара газеты. Дзеці, пакуль здагадаліся — Пад якім дрэвам сядзіць заяц, калі дождж ідзе, — назвалі дуб, елку, каштан, бярозку і малиннік. Ведалі пра лісічкі, мухаморы і нават зялёнкі. Лясныя назвы дапамогуць ім падабраць файныя вершы на дэкламатарскі конкурс.

— Мы першы раз возьмем удзел у гэтым конкурсе, — кажа настаўніца Анна Гжэсь, — таму крыху адчуваем стрэс.

Праўда, не ўсе трэцякласнікі баяцца сцэны. Юля і Сандра спяваюць у вакальна-музычным калектыве «Казка».

Усе ведаюць, што Гарадок стаіць беларускай песняй. У класе ўсе дзеці вывучылі песню «Настаўнікі» на словы паэта Віктара Шведа. Заспяваюць яе на Дзень настаўніка перад цэлай школай. А зараз паказ адбыўся ля класнай насценгазеты з беларускімі сімваламі. Арнаменты выканалі дзеці і іх навука не пайшла ў лес. Калі адна сяброўка выйграла ў конкурсе сшытак з беларускім арнаментам, у класе трапна «прачыталі» народны ўзор. Гэта дзве птушачкі, павернуты да сябе дзюбкамі, а сярод іх — дрэва жыцця. Такі сімвал абяцае шчырае каханне, ды з узаемнасцю.



Трэцякласнікі з настаўніцай Аннай Грэсь



Любоў з узаемнасцю з трэцім класам ПШ у Гарадку мы адчувалі ад пачатку сустрэчы. Пасля, калі я выходзіла са школы, дзеці збіралі ўжо жалуды пад школьным дубам і весела крычалі: Да пабачэння!

**Зорка**
Фота: Ганны Кандрацюк

Кастусь Цвірка

## Зялёнка

Мароз-дзядуля сцюжам звонка
Ужо распускае пясок,
Ды пад ялінаю зялёнка
Жыве, зашыўшыся ў пясок.

## Радоўка

А побач (ну, не лес — кладоўка),
Уся фіялетавая, з траў
Адважна вылезла радоўка —
Зялёнкі родная сястра.

## Мухамор

У яркім шоламе агністым,
Як рыцар — палюбуйся, бор! —
Стаіць на варце, ганарысты,
Граза ўсім мухам — мухамор!

## УВАГА КОНКУРС! № 41-19

**І нажом зрэзаны, і дратамі звязаны, а ён не плача — ён па падлозе ў прысядкі скача.**
**В....**

Разгадайце загадку-пытанне з жартам, адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнні дашліце ў „Зорку” да 27 кастрычніка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 37: Страўс не скажа пра сябе, што ён птушка, таму што не ўмее гаварыць. Гэтую загадку адгадалі дзеці з пятага класа ПШ № 4 у Беластоку ды трэцякласнікі і пяцікласнікі з Гарадка. Усе атрымалі файныя ўзнагароды. Віншуем!**

# Маляванка на шчасце!

*Калечкам сонка*
*Да гары едзе,*
*Малада Кася*
*Да шлюбу едзе...*

Так пачынаецца вясельная песня, якую пяе жаночы харок перад выездам маладых да шлюбу. Спевы доўжацца ажно ўсе госці споўняць абрад *спамагання*, значыць пажадаюць удач маладым і кінуць сімвалічны грашак на талерку. Гэта самы магічны момант вяселля. Без яго — верылі нашы продкі — няма прыбытку і шчасця ў сям'і.

У беларускай традыцыйнай культуры кола-калечка ўспрымалася як сімвал ахвоты да жыцця, любові да людзей і жывёлы. У пасажным сундуку дзяўчыны, апрача ручнікоў і пасцелі, абавязкова трэба было паклaсці і карункавыя сурвэткі-круглячкі.

Кола — сімвал сонца, самай магутнай крыніцы энергіі і пераемнасці традыцыі. Гэта часты дэкор адзення і будынкаў. Сустракаем яго ў «Краіне адкрытых аканіц». Гаворка пра турыстычны шлях, які вядзе праз падляшскія вёскі Трасцянку, Пухлы, Сацы. Нашы драўляныя хаткі з салярным дэкорамі арнаментамі апынуліся ў сусветных рэйтынгах як турыстычны цуд Польшчы. Вось якая чарадзейная сіла беларускага калечка!

Мы таксама прапануем вам маляванку-круглячок, каб прынесла ўсім шчасце ў новым навучальным годзе.

**(гак)**

# Залукі і я!



У маім жыцці многа месцаў і рэчаў, якія я люблю, але бацькаўшчыну я кахаю цэлым сэрцам.

Залукі — мая малая бацькаўшчына. Тут я жыву і ведаю кожны каменьчык. Тут дарасталі мае бацькі і дзяды. Гулялі пэўна ў тых самых месцах, дзе і я зараз гуляю, вучыліся ў той жа школе і таксама як я марылі. У маіх Залуках існуе школа, у якой я зараз вучуся, пазнаю свет і маю сваіх сяброў. Можа здавацца, што гэта вёска і нічога тут цікавага не адбываецца, але для мяне тут кожны дзень іншы. Часам здараюцца дні, калі ніхто нікуды не спяшае і ўсе для сябе прыязныя. Але ёсць і так, што людзі схаваныя па сваіх панадворках і толькі з хлявоў чуваць мычанне кароў, а з палёў нясецца гул трактароў.

Можа не паверыце, але лугі ў Залуках заўсёды зялёныя, вада ў Супраслянцы чыстая як слёзы, а неба блакітнае. Толькі зімою пад цяжарам снегу гнуцца галіны дрэў, каб вясною з новай сілай расцвілі на іх пупышкі. Летам шумяць нівы збожжа на палях, восенню лісце здаецца быць каляровымі птушкамі. Залукі. Яны для мяне такія.

Некаму можа здавацца, што гэта малая, глухая вёсачка, якіх многа ў свеце, але для мяне тут найпрыгажэй — гэта мая бацькаўшчына.

**Юлька Грэсь**, VIII клас
Журналісцкі кружок з Залук



Размалюйце!

## Польска-беларуская крыжаванка № 41-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37-2019:**
Кампот, спех, лат, кошт, шлем, Об, бор, пенал, баравік, ты, танец, так, кіт, мора. Асколак, век, хобат, сорам, тран, век, мы, шпіц, лек, тлен, то, аматар, лыка.

Узнагароды, фламастары, выйгралі **Магда Якубюк, Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага, **Міколка Паплаўскі, Віктар Паўлоўскі** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!



# «Світанку» — дзесяць




У апошнюю суботу верасня ўвечары заварушылася глядзельная зала ў Беларускім таварыстве па вуліцы Варшаўскай, 11, у Беластоку. Аматары роднай песні не толькі з Беластока прыбылі на свята — юбілей калектыву, які складаюць настаўніцы беластоцкага дзіцячага садка №14 з беларускай мовай навучання. Былі таксама дашкольнікі і выпускнікі садка, іх бацькі і дзяды. Бо настаўніцы прывівалі і прывіваюць любоў да роднай песні і роднага слова не толькі сваім навучэнцам — у пастаноўках, разам з дзеткамі і настаўніцамі, прымалі ўдзел таксама бацькі дашкольнікаў, якія часта ўжо не карысталіся штодзень беларускай мовай. Сярод выпускнікоў садка — мастакі і музыкі, якія, нават яшчэ невялікія, выступаюць на сцэне філармоніі. Як падкрэслівае дырэктарка садка Луцыя Неміровіч, якая часам таксама падмацоўвае гурт сваім голасам і вандруе з ім на гастролях нават за мяжу, гэта вялікае шчасце і гонар быць з такім калектывам: „Сіла ў саміх асобах, у іх талентах, сіла ў тым, што яны спяваюць нашы падляшскія беларускія песні". На юбілей з віншавальнымі песнямі прыбылі іншыя калектывы — «Маланка» з Бельска, «Сувенір» з Беластока, «Лайланд» з Грабаўкі з маладзенькімі сёстрамі Астапчук, якія спяваюць песні і з рэпертуару «Світанка»; выступілі таксама выпускніцы садка, вядомыя ўжо спявачкі...

— Восень 2009 года, — успамінае вядучы юбілейны канцэрт Кірыл Лепай. — Вуліца Ліпова выглядае зусім іначай чым цяпер. І па ёй яшчэ ездзяць «Ікарусы» і «Ельчы». На Рынку Сенным, замест прыгожых брукаваных вулачак, ляжыць яшчэ пясок. А на месцы сучаснай оперы яшчэ стары амфітэатр. Электрычкі Гародня — Беласток ездзяць яшчэ тры разы ўдзень, і, натуральна, яны раскручваюцца тры разы ўдзень — перад мяжой і пасля кантролю. У адзін з прыгожых вераснёўскіх вечароў, калі ўсе раз'ехаліся па дамах, сядзелі дзве жанчыны. Яны сядзелі, пілі гарбату і аб чымсьці размаўлялі. Безумоўна, так магло быць. Але наша гісторыя адрозніваецца. Гэта была ідэя з роду ідэй. Ідэя-бабуля нарадзіла ідэю-маці, ідэя-маці нарадзіла дзіця. Дзяўчынку назвалі «Світанак». Яна расла, расла і вырасла на прыгожую дзяўчыну. І сёння запрасіла нас з вамі на свой дзень нараджэння. Адным прыгожым вераснёўскім вечарам адбыўся гала-канцэрт беларускай песні, у якім калектыў «Світанак» першы раз выступіў перад шырокай публікай. А на пытанне медый, «а што ў вас гэта за рэпертуар, а колькі песень маеце ў рэпертуары», спадарыня Эва Гняздоўская адказала: 'Пакуль што адну!' На працягу дзесяці гадоў калектыў запісаў два дыскі, ідзе падрыхтоўка да запісу трэцяга дыска. Як адзіны калектыў за ўвесь час існавання фестывалю беларускай песні тры разы ўзяў Гран-пры. Зараз калектыў нам заспявае песню «Гой, гой...». А наступная — «Выйшла замуж маладою...». А зараз бярыце лыжкі са стала. Першае пытанне буду задаваць нашым артысткам з ансамбля «Світанак». А другое — дарагім дзецям. «На ваш погляд, колькі ўсяноччуванняў напісаў рускі кампазітар Сяргей Рахманінаў?» — «Адно». — «Як вы думаеце, як можна выкарыстоўваць талеркі, калі не есці з іх кашы? Кагосьці ты мне нагадваеш. Ну, Дамініка, як гэты інструмент называецца?» — «Талерка». Давайце паспрабуем памузыкаваць... «У якім горадзе адбываецца Фестываль царкоўнай музыкі «Гайнаўка»? — уся зала б'е ў ладкі. Цікава, як у садку! «А што можна рабіць гэтымі лыжкамі? Можна есці, званіць, але паспрабуем імі памузыкаваць...» — вёў заняткі — як у садку — тата Кірыл, а ўся зала добра гуляла. — Вялікі дзякуй, шаноўныя дзеці. Гэта была прэлюдыя да наступнага твора, які выканаюць нашы сённяшнія юбіляркі. «Гарні бульбу!». Варта адзначыць, што гэтыя лыжкі зрабілі сапраўдны фурор на сёлетнім харвацкім фестывалі, які адбыўся ў горадзе з вельмі мілагучнай назвай Крк на аднайменным востраве...






І шаноўныя юбіляркі занямелі ў «чырвоным куце», і пачаліся добрыя словы ды падарункі ад людзей, удзячных ім за іхнюю творчасць і, дзякуючы якім, таксама маглі яны весці сваю прыгожую дзейнасць, і якія прымалі актыўны ўдзел у станаўленні і развіцці «Світанка». Гэта перш за ўсё дырэкцыя садка № 14 у Беластоку, працаўнікі садка Эвеліна Курган і Эмілія Кендысь... Дырэктарка садка і кіраўнік усяго персаналу садка Луцыя Немiровіч падзякавала таксама былому дырэктару дэпартамента культуры Падляшскага сейміка Анатолю Вапу: «Дзякуем табе, Толік, за 15 гадоў супрацоўніцтва з нашым садком, за падтрымку нашых праектаў, між іншым «Світанка». «Світанак» падзякаваў і дырэкцыі: «Дзякуй вам за той час з намі, што вы былі для нас як мама, памагалі разам працаваць, калі нам трэба было выехаць, арганізавалі працу ў садку, за добрае слова. І нашым каханым сяброўкам — Эвеліне, Эмілі, віцэ-дырэктарцы Басі — за тое, што для нас мелі час, за вашы сэрцы залатыя, за час, калі мы выступалі — вы за нас працавалі, дахаты пазней прыходзілі, за тое, што спявалі разам з намі», — з хваляваннем дзякавалі настаўніцы-спявачкі. А дырэктарка ганарылася: «Мець у садку такі калектыў працаўніц — гэта вялікі для мяне гонар! Дзякуй вам за тое, што дзесяць гадоў вы нас рэкламавалі». «Наш калектыў — добры світанак на наш кожны дзень», — прызналася сяброўка з садка Эва Данеляк.

Выхаванкі садка падрыхтавалі сувенір сваім «паням» — песні. Ася Пяткевіч заспявала песню з мюзікла «Рамэа і Джульета». Ася заняла другое месца ў конкурсе англійскай песні, вылучэнне на міжнародным фестывалі дзіцячай і моладзевай песні «Гдыня Опэн 2019». А талент Юлькі Баравік быў прыкмечаны ўжо ў садку Аннай Бабік. Дзякуючы яе намове дзяўчынка стала вучыцца іграць на фартэпіяна і спяваць, надалей удасканальвае свой музычны талент — іграе таксама на саксафоне. Паліліся і слёзы ад хвалявання, і дзяўчаты запалі ў гарачыя абдымкі сваіх выхавацелек. Віншаванні і падзякі гучалі і ад Беларускага таварыства, і Генеральнага консульства Беларусі, і сяброў калектыву з публікі, і іншых гуртоў. Сяргей Лукашук, сярод спевакоў якога была калісьці Данута Тымашэвіч, сяброўка «Світанка», пажадаў, каб ансамбль, які пераўзышоў ужо меры



аматарскага гурта, надалей станавіўся штораз больш прафесійным і развіваўся ў гэтым напрамку, прыносячы слухачам задавальненне і радасць.

Анна Бабік, якая ў калектыве спявае ад пачатку, спявачка і кампазітарка: „Мы адчулі магію публікі, якая адгукаецца на тое, што мы спяваем і гаворым, таму проста не маглі перастаць спяваць і рыхтаваць новыя песні, іх аранжыроўкі і пастаноўкі".

На здымках справа налева: Эва Гняздоўская, Дануся Тымашэвіч, Эля Рудчук, Эля Баравік, Аня Бабік, Віта Кацюбайла. Выступалі ў «Світанку» яшчэ Эмілія Кендысь, Эвеліна Курган, Бася Тафілюк і Луцыя Немiровіч.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Тэатральны Усход: класічны, нязручны і прымушае задумацца

**Беларусь, Украіна, Літва, Польшча. І Грузія ўпершыню. Геаграфія трэцяга тэатральнага фестывалю «Напрамак Усход» паступова пашыраецца. Ён паказвае разнароднасць усходняй тэатральнай культуры. Праходзіў «Напрамак Усход III» на сцэне Беластоцкага драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі з 28 верасня да 6 кастрычніка. Дзевяць тэатральных падзей, сёлета мы пабачылі разнастайнасць жанраў, ад класічных спектакляў да шалёных эксперыментаў. За кулісамі, ужо напрыканцы фестывалю, нават арганізатары ўздыхалі: сёлета сапраўды, высокі ўзровень, на наступны — трэба вельмі пастарацца.**

**У Беласток, між іншым, упершыню прыехалі грузінскія акцёры, прадстаўнікі аднаго з найстарэйшых тэатраў: Тэлаўскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Важа-Пшавела, класіка грузінскай літаратуры пачатку мінулага стагоддзя. І таксама ў класічным стылі паказалі п'есу «Разбіты збан» паводле нямецкага раманіста Генрыха фон Клейста. Грузінскі тэатр — своеасаблівае адкрыццё фестывалю.**


Foto_Bartek_Warzecha

## Два Народныя на адной сцэне

Украінцы пачыналі фестываль. На сцэне два народныя артысты Украіны — Багдан Бенюк і Анатоль Хасцікоеў. Спектакль «Швейк» у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Івана Франко ідзе ўжо больш за 26 гадоў. Яго паказваюць на розных фестывалях і нават паказвалі на Майдане падчас рэвалюцыі Годнасці.

«Гэта ўкраінскі Швейк», — кажа Багдан Бенюк, выканаўца галоўнай ролі. Нацыянальныя рысы накладаюцца на ўвасабленне героя — чэшскага «бравага салдата», якога прыдумаў Яраслаў Гашак. «Беларусы, напэўна, сыгралі б свайго Швейка», — кажа артыст.

Гэта гісторыя пра пачуцці і пра давер адной асобы да другой у вельмі складаных абставінах Першай сусветнай вайны. Акцёры не граюць салдатаў, яны нам расказваюць, як здолелі пасябраваць дзве абсалютна розныя постаці: Швейк, такі просты і месцамі нават прыдуркаваты, і паручнік Лукаш, асоба з вышэйшага свету. Персанажаў больш, але асаблівая ўвага сканцэнтраваная менавіта на гэтых двух. Усіх астатніх, дарэчы, таксама іграе Анатоль Хасцікоеў і атрымліваецца, што на сцэне — некалькі персанажаў і толькі два акцёры.

Акцёры шмат імправізуюць. І менавіта гэтая імправізацыя нам паказвае як выдатна злучаецца ўсходняя і заходняя тэатральныя традыцыі. З аднаго боку такое класічнае, амаль акадэмічнае выкананне, з іншага боку — імправізацыя, якую могуць сабе дазволіць акцёры вышэйшага класа — Багдан Бенюк і Анатоль Хасцікоеў.

## Класіка, якая не павінна быць нуднай

Беларусы ў Беласток прывезлі класіку і эксперымент. У рамках фестывалю выступілі Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы і Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі — дзве сталічныя пляцоўкі. Аншлаг на спектаклі «Пінская шляхта» купалаўцаў вельмі парадаваў. Поўная глядзельная зала, прадстаўнікі мясцовых улад (маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі і прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі), прадстаўнікі духавенства і дыпламатычнай місіі ў Польшчы — надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі Уладзімір Чушаў і генеральны консул у Беластоку Ала Фёдарава.

«Пінская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча — класіка вядомая яшчэ са школы. Але як яе зрабіць сучаснай і не нуднай? У купалаўцаў атрымалася. Рэжысёр спектакля Мікалай Пінігін выкарыстаў таксама класічныя тэатральныя сродкі: да дробязей прадуманыя мізансцэны, дасканалая ігра акцёраў, народныя танцы і спевы, якія характарызуюць беларускую культуру. Народны артыст Беларусі Віктар Манаеў у ролі асэсара Кручкова — ідэальны. І нават ёсць меркаванне, што нібыта «Пінская шляхта» — спектакль аднаго акцёра Віктара Манаева. З гэтым ён катэгарычна не згодны і нават абражаецца. Кажа: тут выдатны ансамбль акцёраў, і моладзь, і старэйшае пакаленне, толькі разам мы ствараем спектакль. А на першай сцэне Беларусі, у Купалаўскім тэатры спектакль ідзе ўжо дзесяць гадоў. У Беластоку таксама публіка авацыямі, стоячы вітала купалаўцаў.

Пры падтрымцы Пасольства Беларусі ў Польшчы і консульскіх установ у Бялай-Падляшскай і Беластоку кіраўнік Купалаўскага тэатра Павел Латушка правёў шэраг перамоў і дамовіўся пра супрацоўніцтва з кіраўнікамі тэатра імя Юльюша Астэрвы ў Любліне, Нацыянальнага тэатра Польшчы, Польскага тэатра ў Варшаве, Драматычнага тэатра Варшавы, Тэатра «Рампа» ў Варшаве, Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Гэта першыя гастролі Купалаўскага тэатра ў юбілейным сотым сезоне. Напярэдадні купалаўцаў год цікавых праектаў і планы па гастролях як у Беларусі, так і за мяжой. Наступны замежны праект — паказ спектакля „Ураджай" у снежні ў Парыжы.

## «Бетон»

Проста бетон. Нешта цяжкае, тое што нас скоўвае. Каханне сярод бетону, усё гэта пра нас. «Бетонныя сцэны і мы не заўважаем адзін аднаго», — так пра спектакль кажуць акцёры. Гэта эксперымент. Спектакль «Бетон» Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, прэм'ера якога ў Мінску адбылася ў верасні 2017 года. На Рэспубліканскім конкурсе тэатральнага мастацтва „Нацыянальная тэатральная прэмія" ён атрымаў узнагароду «Лепшы эксперыментальны спектакль». Літаральна некалькі слоў ва ўсім спектаклі, пластыка замест іх. Своеасаблівы почырк беларускага рэжысёра Яўгена Карняга, які не баіцца шакаваць гледача, не баіцца, што непадрыхтаваны глядач проста нічога не зразумее.

— «Бетон» — гэта сімвал сучаснага свету, — кажа Яўген Карняг. Рэжысёр абапіраецца на старажытна-грэчаскі міф пра Арфея і Эўрыдыку, якія вядомыя сваім манагамным каханнем. А ў сучасным свеце ўсё палігамнае і нават каханне. Мы маем больш выбар і менш разборлівыя ў сваіх стасунках.

У спектаклі багата сімвалаў. Добра гэта ці дрэнна? Часамі губляешся. Асабліва, калі, напрыклад, сусед злева троху пазяхае, а суседзі з правага боку — пачалі бурчаць, бо нехта там не выключыў тэлефон. Але заўсёды ў спектакль можна вярнуцца і твае асабістыя эмоцыі і досвед, твая фантазія падкажуць адказ на пытанне: пра што? Гэта як «чорны квадрат Малевіча», на які мы глядзім разам, але кожны там бачыць нешта сваё.

Беларускія акцёры невыпадкова завяршалі фестываль, паколькі даўно паміж беластоцкім тэатрам і Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі завязаліся цесныя творчыя сувязі.

## Якое вяселле без бойкі...

Літоўцы на фестывалі «Напрамак Усход» паказалі спектакль «Вяселле». Рэжысёр Оскарас Каршуновас, акурат пра яго мы кажам — тытулаваны і вядомы, уладальнік шматлікіх фестывальных узнагарод і прэстыжных еўрапейскіх прэмій. За аснову ўзялі класічны твор нямецкага драматурга Бертольда Брэхта, адзін з яго першых драматычных твораў, які напісаны ў 1918 годзе. У спектаклі граюць выключана маладыя акцёры, вучні Оскараса Каршуноваса. Як кажуць акцёры, Брэхта ў спектаклі толькі чвэрць, а ўсё астатняе — сучаснасць. Ім дазволена імправізаваць, ім рэжысёр дае свабоду, толькі за сабой пакідае права «ставіць маркеры». Рабіць можна літаральна ўсё, «наш Оскар», так акцёры называюць рэжысёра, толькі можа сказаць: о'кей, вось тут мы ставім кропку, хопіць, бо зараз ужо далёка можна зайсці.

Гледачы збіраюцца і адразу трапляюць на вяселле. Тут малодшая сястра частуе ўсіх цукеркамі, раздае гледачам рыс, такая традыцыя, як толькі з'явяцца маладыя — усе мы іх будзем вітаць, стоячы і абсыпаць рысам. «Я хачу, каб гэта вяселле мая сястра запомніла на ўсё жыццё». І, сапраўды, яно запомніцца.

Вобразы вельмі блізкія. Сястра-жыўчык, якая кіруе працэсам. Маці ўсхваляваная, на ёй уся арганізацыя, час ад часу яна выносіць «аліўе», чарговыя порцыі ежы і алкаголю. Сябра-лавелас, такі мача, які гатовы сваёй увагай ахапіць кожную дзяўчыну. Сяброўка, што прыйшла на вяселле і апранулася вельмі вульгарна, каб сябе паказаць.

У такой сітуацыі многія з нас былі. На кожнай сямейнай большай гулянцы, калі з'язджаюцца амаль усе і нават далёкія цёткі і дзядзькі, выпіваюць, пачынаюць дыскутаваць на самыя розныя тэмы. Тут і палітычныя рознагалоссі, і сямейныя, выплываюць старыя крыўды. Звычайнае вяселле: танчаць, п'юць і... бойка. Усе забыліся, што тут акурат нараджаецца сям'я. Гэта — сатыра. Пародыя на наша грамадства, калі жыццёвая мітусня перашкаджае заўважыць сапраўды важнае ў нашым жыцці. А ў канцы нас пераконваюць, што найважнейшае каханне. Брэхт дасканала ведаў нашы заганы і выдатна напачатку мінулага стагоддзя іх апісаў, а літоўцы толькі пераказалі іх, праўда, вельмі па-сучаснаму.

На гэтым «Вяселлі» заўсёды ёсць «фішкі», прывязаныя да мясцовасці, дзе яго граюць. У беластоцкім спектаклі госці на вяселлі танцавалі пад хіт з дыска-пола, які мы ўсе добра ведаем. А таксама адзін з герояў час ад часу размаўляў па-польску.

## Ільвоў альбо Львоў, але нікому не аддадзім

Палякі шакавалі і стварылі дыскамфорт. Вядучая дыскусій, журналістка Дарота Сакалоўская пажартавала, маўляў, даўно не бачыла, каб гледачы так хутка пасля спектакля ўцякалі з залы. Ён сапраўды вельмі некамфортны, як для палякаў, так і для ўкраінцаў, задае пытанні, над якімі мы не хочам разважаць. Акцёры расказалі розныя гісторыі, што дачытаць польска-ўкраінскіх стасункаў. Гэта спектакль «Львоў не аддадзім» Тэатра імя Ванды Семашковай з Жэшава. Ужо над назвай мы можам дыскутаваць. Як расказвае рэжысёр спектакля Катажына Шынгера, самі сябе падлавілі, што думаем штампамі. Калі збіралі матэрыялы для спектакля, у адным з інтэрв'ю мужчына расказваў пра статуі ільвоў, якія на рэстаўрацыю забіралі з могілак, там гучаў сказ з кантэксту «ільвоў не аддадзім». У той час як палякі, што працавалі над тэкстам на аўтамаце напісалі «Львоў не аддадзім», маючы на ўвазе горад, які — «polskie miasto». Такое стэрэатыпнае мысленне ў аснове спектакля.

Гэта тэатральны дакумент і нават рэпартаж, які стварaўся паводле паведамленняў у СМІ і гісторый, сведкамі якіх былі стваральнікі спектакля і акцёры. Закранаюцца самыя розныя аспекты: культурныя, эканамічныя, палітычныя і гістарычныя.

Тут і тысячы «заробітчанаў», якія прыехалі працаваць у Польшчу, і пра тое, што ў любога ўкраінца «пад «Бядронкай» папяросы купляем за 7 злотых, а ў «Бядронцы» па 15», тут і высокі польскі палітык, які прыехаў з візітам у музей «нямецкай, польскай, савецкай агрэсіі» і пытаецца: чаму ў рамках майго візіту не змянілі шыльду і не прыбралі слова «польскай»? Не змянілі і не будзем змяняць, бо гэта гістарычны факт. Тут табе і Валынь, і Бандэра, з якім у Еўропе Украіну ніхто не чакае. Так дыктуе Польшча.

На сцэну выходзіць акторка, такая пяшчотная, у прывабнай чырвонай сукенцы. «Тая ўкраінка адмаўляецца выходзіць на сцэну, — яна нам кажа. — Навошта яна нам, ці сваіх польскіх акцёраў няма? Кожная з маіх сябровак можа выканаць гэту ролю не горш. Трэба проста расказаць біяграфію Сцяпана Бандэры». І яна пачынае расказваць... тут мы бачым: яе круціць, рукі і голас дрыжаць, пачынаецца нібы сеанс экзарцызму. Такі сімвал, такая гіпербалізацыя, як палякі рэагуюць на Бандэру.

Ролю ўкраінкі выконвае запрошаная госця, артыстка аднаго з кіеўскіх тэатраў Аксана Чаркашына. Яна расказвае, што часамі і ёй на сцэне некамфортна, як кожнаму чалавеку, бо складана знаходзіцца ў полі стэрэатыпнага бачання ўкраінцаў, Украіны. Граць гэта, перажываць гэта. Як прызнаецца рэжысёр Катажына Шынгера, рэакцыі на спектакль самыя розныя, але відавочна, што тэмы, якія яны ўздымаюць — нацыяналізму і ксенафобіі — актуальныя ў сучаснай Польшчы. І нават ёй пісалі ў сацыяльных сетках і пагражалі, маўляў, яна не «праўдзівая полька», калі прытрымліваецца такіх поглядаў. Спектакль, дарэчы, створаны на грошы, якія выдаткоўваліся ў рамках 100-годдзя незалежнасці Польшчы.

Таксама з Польшчы на фестывалі паказалі монаспектакль акторкі з Торуня — Тэрэзы Стэмпень-Навіцкай, якая распявала гісторыю салдата Арміі Краёвай — генерала Альжбеты Завацкай. Спектакль «Аблава» Беластоцкага драматычнага тэатра імя Аляксандра Венгеркі — гістарычная інтэрпрэтацыя аперацыі па ліквідацыі польскага антыкамуністычнага падполля на тэрыторыі Аўгустоўскай пушчы. Прайшоў творчы вечар польскай акторкі Магдалены Важэхі. Усе гэтыя спектаклі аб'ядноўвае ўсходняя тэматыка. Вось так здаецца кароценька, пра вельмі насычаны тэатральны тыдзень у Беластоку пад знакам «Напрамак Усход».

Дзіма КАРМАЗІН

# Узнагароды маршалка для дзеячаў культуры



У апошні дзень верасня вечарам у Падляшскай оперы і філармоніі восем пераможцаў атрымалі ў дваццаты раз штогадовыя ўзнагароды маршалка Падляшскага ваяводства ў галіне мастацкай творчасці, распаўсюджвання і аховы культуры за сезон 2018/2019. Гэта памятная статуэтка і 8 тысяч злотых.

Сярод заяўленых да прэміі дваццаці заяў выбраны былі асобы і згуртаванні, якіх дзейнасць у абшары мастацтва і аховы культурнай спадчыны Падляшскага ваяводства з'яўляецца адмысловай.

— У ліку ўзнагароджаных апынуліся мастакі, педагогі, навукоўцы — людзі, якія дзейнічаюць на розных абшарах, але з вялікімі вынікамі. Усе яны спрычыняюцца да развою і аховы культуры нашага рэгіёна, — адзначыў маршалак Артур Касіцкі. — Вы — візітная картка нашага ваяводства, наша дабро і наш гонар.

Лаўрэатамі XX Узнагароды маршалка Падляшскага ваяводства ў галіне мастацтва і распаўсюджвання культуры за сезон 2018/2019 з'яўляюцца: **Агата Альшэўская** — прафесар філіяла Музычнага ўніверсітэта імя Фрыдэрыка Шапэна ў Беластоку, дырыжорка Жаночага хору Schola Cantorum і Міжшкольнага жаночага хору пры ІІІ Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку — за ўсе дзеянні дзеля развою музычнай культуры і вядзенне навуковай дзейнасці; **Віктар Дамінік Шчыгел** — музычны прадзюсар і кампазітар, стваралючы музыку з памежжа фольку, басавай электронікі і папулярнай музыкі, лаўрэат шматлікіх прэмій і вылучэнняў — за цэласць прац з музычнай кампазіцыі і асаблівых дасягненняў у галіне распаўсюджвання ў Польшчы і ў свеце музыкі, вырослай на грунце падляшскага фольку; **Пётр Дамалеўскі** — акцёр, сцэнарыст і рэжысёр — за прасоўванне Падляшша ў Польшчы і ў свеце; **Збігнеў Раманюк** — гісторык, рэгіяналіст, грамадскі дзеяч — за распаўсюджванне асабліва сярод маладога пакалення гісторыі Польшчы і рэгіёна; **Малгажата Дайновіч** — Падляшскі ваяводскі рэстаўратар помнікаў — за дзейнасць у распаўсюджванні гістарычна-культурнай спадчыны і стварэнне Падляшскага культурнага парку ў Багоніках; **Згуртаванне Універсітэт трэцяга ўросту** ў Сувалках — за прамоцыю здаровага ладу жыцця сярод пенсіянераў, супрацьдзеянне маргіналізацыі і выключэнню сеніёраў з культурнага грамадскага жыцця; **Уладзімір Наумюк** — мастак, народны скульптар, які спецыялізуецца ў фігурнай скульптуры — за цэласць мастацкай, папулярызатарскай і адукацыйнай дзейнасці дзеля Падляшша і яго жыхароў; **Ян Смык** — рэдактар Польскага Радыё Беласток, за апрацоўку «Анталогіі польскага радыёрэпартажу» і прасоўванне культуры Падляшскага ваяводства ў эфіры Польскага Радыё.

**Ян Смык,** ураджэнец **Дабрывады**:

— Я дзякую грамадскім арганізацыям за тое, што знайшлі ў радыёжурналіста матэрыял, які можна прадставіць на прэмію. Я належу да пакалення радыйшчыкаў, якія мала размаўляюць, шмат слухаюць. І дзякую за ўзнагароду таксама ад імя заяўнікаў.

**Уладзімір Наумюк** з **Канюкоў**: — Мне крыху дзіўна, але прыемна бачыць вас і сябе сярод вас. І я думаю, ці заслужыў я гэтага? Ці здзейсніў я тое, што меў у сваіх задумах? Што зрабіць для народнай культуры? Я з вёскі, у мяне было мала зямлі, але я быў селянінам. Мая праца чэрпала багацце ад людзей вакол мяне, ад беднякоў з пасляваенных часоў. У мяне шмат разоў пыталіся, чаму мае скульптуры такія сумныя. Таму, што маё жыццё было сумным. Я застаўся без маці, бацька згараў жывым ад фашыстаў, і трэба было жыць. Мне пашанцавала, я заўсёды сустракаў добрых людзей на сваім шляху. Я ўвесь час думаў, ці я зрабіў усё, што павінен быў зрабіць. Але гэта першы том майго жыцця. Другі том, магчыма, шчаслівейшы — будзе напісаны маёй унучкай, якая пайшла па маіх слядах. **(лук)**



Не так даўно беларускае сеціва абляцела навіна: на сайце аэрапорта Вільні з'явілася беларуская версія. Навіна была настолькі незвычайнай, што на яе нават звярнуў увагу тэлеканал „Белсат". Сапраўды, у свеце цяжка знайсці аэрапорт, які б меў на сваім сайце беларускую версію. Нават не ўсе аэрапорты ў Беларусі яе маюць. Праўда, не ўсе яны ўвогуле маюць сайты. І гэта таму, што пасажыраў зусім нямнога, а значыць і рэгулярных рэйсаў амаль няма. Выключэнне тут складае мінскі аэрапорт. Але такая сітуацыя ўказвае на адсутнасць вялікай неабходнасці ў аэрапортах для іншых буйных гарадоў Беларусі, прычына чаго ў кволай беларускай эканоміцы.

Некаторы час таму віленскі аэрапорт у жыхароў Беларусі атрымаў назву „Мінск-3", пасля „Мінск-1", які месціўся на тэрыторыі Мінска, і цяперашняга нацыянальнага аэрапорта. Гэта з-за таго, што лятаць з Вільні значна танней, і беларускі люд, які мае шэнгенскую візу, паехаў на віленскі аэравакзал, іранічна і нефармальна яго перайменаваўшы. Зразумела, для літоўскага боку большая колькасць пасажыраў толькі на карысць і, відаць, каб яшчэ больш замацаваць за сваім аэрапортам „мінскую" яго назву, зрабілі на сайце версію па-беларуску — **http://flyfrom.lt/by/vilniaus-oro-uostas/**.

„У Беларусі ёсць жыхары, якія падарожнічаюць праз нашы аэрапорты, таму мы і вырашылі звярнуцца наўпрост да іх на іх роднай мове. Гэта самая галоўная прычына, чаму мы вырашылі казаць па-беларуску", — распавёў „Белсату" кіраўнік аддзела камунікацый Літоўскіх аэрапортаў Марус Зялянюс. Паводле яго, пасажыры з беларускімі пашпартамі складаюць у віленскім аэрапорце ад 8% да 12% ад усіх падарожных — то-бок дзясятую іх частку. У той жа час на сайце адзначаецца, што колькасць пасажыраў дадзенага аэрапорта ў 2018 годзе дасягнула ажно 4,9 млн. асоб. А за першую палову 2019 года яго наведала ўжо 2,4 млн. падарожнікаў.

„Хоць паверце, хоць праверце: аэрапорт Вільнюс — лагічны выбар для падарожнікаў", — такі слоган размешчаны на сайце па-беларуску. Дарэчы, дадзены сайт мае, акрамя літоўскай, таксама польскую, рускую і латышскую версіі. І слоганы на кожнай адрозныя адзін ад аднаго. „Nic tu nie wyczarujesz", „Нечего тут гадать", „Nieko čia nepribursi (Вы нічога не скажаце тут)(літ.)", „Neko te neizdomāsi (Тут нічога не можаш прыдумаць) (лат.)".

Як своеасаблівае пацвярджэнне блізкасці віленскага аэрапорта для беларусаў прыводзіцца параўнанне з адлегласцю ад горада Ліды да яго і ад Ліды да аэрапорта Мінска. І адлегласць, і час дарогі да Вільні ад Ліды ўдвая меншыя, чым да беларускай сталіцы. Падобны прыклад прыводзіцца і ў дачыненні да Гродна.

Таксама на сайце месціцца схема накірункаў і гарады, куды можна даляцець з Вільні. Гэта таксама падаецца па-беларуску. А вось паглядзець расклад вылетаў і прылётаў і заказаць білет па-беларуску немагчыма. Гэтыя опцыі на старонцы з беларускай мовай чамусьці толькі па-руску.

Дарэчы, два гады таму віленскі аэрапорт аднавіў сваю працу пасля рамонту. Там была рэканструявана ўзлётна-пасадачная паласа, а да 2020 года планцуецца пашырыць тэрмінал, абнавіць сістэмы транспарціроўкі багажу і сістэмы бяспекі, пабудаваць шматузроўневы паркінг.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



## 135 гадоў з дня нараджэння

# Баляслава Пачопкі

Беларускі святар, настаўнік і рэлігійны публіцыст Баляслаў Пачопка нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 г. у засценку Уляны Рукойненскай гміны Віленскага павета. Паходзіў з незаможнай сялянскай каталіцкай сям'і Антона Пачопкі і Ганны з роду Гайдукевічаў. Ахрышчаны ў Лаварышках, скончыў 4 класы вучэльні ў Рукойнах. Працягнуў вучобу ў гімназіі ў Вільні. У 1905 г. паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. Грашыма яму дапамагала княгіня Магдалена Радзівіл. У 1907 г. з-за праблем спыніў вучобу.

З 1907 г. Пачопка ў Пецярбургу, працаваў дробным чыноўнікам, адначасна навучаўся. Браў удзел у беларускіх і польскіх культурна-асветніцкіх гуртках у Пецярбургу, куды прыносіў вершы і песні, дасылаў невялікія артыкулы ў розныя выданні. Аднак царская ўлады па палітычных матывах спынілі дзейнасць гуртоў. Пачопка вярнуўся на радзіму, дзе працаваў прыватным настаўнікам у маёнтку Швядовічаў Крывейкішкі. У 1911 г. у дзяржаўнай гімназіі ў Шаўлях здаў экстэрнам экзамен за курс васьмі класаў гімназіі. 31 студзеня 1912 г. ажаніўся з 19-гадовай Марцыянай Пілецкай, з якой меў сямёра дзяцей. Жыў у Вільні, супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет „Наша ніва" і „Biełarus", працаваў як хатні настаўнік. Пачынаючы з пятага нумара быў рэдактарам і выдаўцом „Biełarusa". Падрыхтаваў і выдаў шэраг беларускіх рэлігійных кніжак. Пісаў вершы па-беларуску і па-польску, збіраў беларускі фальклор, даследаваў гісторыю батлейкі.

Працаваў у Віленскім Камітэцедапамогіпацярпелым ад вайны. Дзякуючы высілкам Пачопкі і Алаізы Пашкевіч, была ўтворана першая сталая беларуская школа ў Вільні. За кароткі час — з лістапада 1915 па люты 1916 г. — Пачопка разам з Цёткай і братамі Луцкевічамі стварылі ў Вільні шэсць беларускіх школ. Гэта былі першыя ў гісторыі беларускія школы. Са снежня 1915 г. яны ж заняліся арганізацыяй першых вечаровых настаўніцкіх курсаў для падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў, а Пачопка быў адным з выкладчыкаў на курсах.

У кастрычніку 1915 г. разам з сям'ёй пераехаў у Свіслач, каб з дазволу нямецкіх улад стварыць там першую беларускую настаўніцкую семінарыю. Быў яе дырэктарам. У семінарыі, якая дзейла ў перыяд з 15.10.1916 па 15.11.1918 г., падрыхтоўку атрымалі 144 беларускія настаўнікі. Баляслаў Пачопка выкладаў беларускую мову, лаціну, вёў заняткі па рэлігіі. Летам 1920 г., у час кароткага наступу бальшавікоў, хаваўся ад рэпрэсій.

Пасля ліквідацыі настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы працаваў дырэктарам і настаўнікам у школах Ваўкавыскага павета: у вёсках Вільчукі і Масюкі, скончыў педагагічныя курсы ў Лідзе. У міжваенны час прыняў усходні абрад на прапанову ўкраінскага манаха-рэдэмптарыста Мікалая Чарнецкага. Пяць гадоў завочна вучыўся ў Львове. У 1926 г. высвечаны спярша на дыякана, потым на святара. Служыў у Бабровічах (Івацэвіцкі раён), выкладаў рэлігію, памагаў бедным. У душпастырскай дзейнасці карыстаўся пераважна беларускай мовай.

З прыходам саветаў у 1939 г. пачаліся маральны і матэрыяльны ціск на святара і яго сям'ю, правакацыі, у царкве быў учынены пагром. Баляслаў Пачопка трапіў у шпіталь, яго дапытвалі НКВД. Памёр 26 снежня 1940 г. Пахаваны на каталіцкіх могілках у Целяханах. Сям'я з'ехала на Віленшчыну, пазней у Польшчу. Месца пахавання ўдалося адшукаць у 2002 г. На Дзяды 2004 г. на магіле ўрачыста адкрыты і асвечаны помнік з дрэва з выявай Уваскрэслага Хрыста (аўтар помніка мастак Мікалай Колас з Баранавіч).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Лёс былых школ

Лёс будынкаў вясковых пачатковых школ у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета, якія спынілі сваю дзейнасць, бывае розны. Некаторыя з іх прызначылі на святліцы, некаторыя прадалі або разабралі. У Лешуках пачалася і не закончылася пабудова прыватнага прадпрыемства, у Старым Ляўкове маем спіртны завод, а ў Семяноўцы — Асяродак экалагічнай адукацыі.

Зараз вялікі драўляны будынак былой пачатковай школы ў Скупаве падпадае ў руіну. У апусцелым будынку збіралася жуллё. Хлапчукі зацерушылі агонь і школа гарэла ўсярэдзіне. Цяпер трэба мець адвагу, каб агледзець зруйнаваны аб'ект. На падлозе поўна друзу, пад сценамі выпаўшыя з завес рамы акон, нейкае школьнае абсталяванне. У адной частцы школы згарэла столь і свеціцца неба. Жудасна. Уваход у будынак адкрыты для ўсіх днём і ноччу. Панадворак зарос высокай травою і кусцікамі. Колішняя школа пакінута сама сабе, як усякая непатрэбшчына. Што будзе з ёю далей? У Скупаве жывуць і солтыс, і радна. Вёска налічвае пад дзвесце чалавек.

Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



## Сакольская дэмаграфія

Зараз у вялікай па плошчы — 314 квадратных кіламетраў — Сакольскай гміне пражывае 7500 чалавек. Шчыльнасць насельніцтва ў гміне складае 83 чалавекі на 1 квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Многа ўдоў ва ўзроставай групе 80 і больш гадоў — утрая больш чымсці мужчын.

Да найбольшых вёсак Сакольскай гміны (яны ад 255 да 600 жыхароў) належаць Старая Камёнка, Богушы, Красняны, Ліпіна і Сакаляны; сярэднія (ад 150 да 200 жыхароў) — Номікі, Слойнікі, Старая Разадранка, Павэлкі, Новая Камёнка, Новая Разадранка, Куроўшчына, Генюшы-Вялікія, Глінішчы-Вялікія, Драглі і Янаўшчына ды меншыя ад сярэдніх (ад 50 да 150 жыхароў) — Генюшы, Ігрылы, Плебанаўцы, Страж, Малявічы-Дольныя, Арловічы, Шышкі, Задвараны, Панятовічы, Баброўнікі, Заспіча, Падкамёнка, Кундзічы, Бухвалова, Стары Шор і Шындзель.

Малымі паселішчамі ў гэтай гміне з'яўляюцца Дамброўка, Галянскія Агароднікі, Татаршчына, Карчы, Воўчая Яма, Стадольнае, Сцебелец, Казловы Луг, Ліпавая Гара, Тартак, Паўлоўшчына, Замчыск, Новая Мачальня, Пагібла, Врочыншчына, Багушоўскі Выган, Засцянкі, Двожыск і Астравок. **(яц)**

## Патрэбны чатыры накладкі

Ужо многа гадоў ваяводскую дарогу № 687 з Навасадаў у Юшкаў Груд цераз Нараўку рамантуюць кавалкамі. Неабходна адрамантаваць — найлепш зрабіць гэтак званыя асфальтавыя накладкі — на яшчэ чатыры адрэзкі гэтай рухлівай артэрыі. Зараз ухабістыя маставыя ад Пераходаў аж да чыгуначнага пераезда, ад чыгуначнага пераезда ў вёсцы Плянта да пачатку вёскі Новае Ляўкова, непадалёк Лазовага ды ад Смольніцы да Новай Лукі. Ездзіць па шашы ў вышэй згаданых месцах небяспечна.

Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку добра ведае пра дрэнную дарогу ą 687, але рамантаваць яе не спяшаецца. Радныя дамагаюцца рамонту, то няхай сабе дамагаюцца. Можа прыйдзе той час і дачакаюцца? **(яц)**

## Неспадзеўка на тратуары

Прыгожая вуліца Новая ў Нараўцы Гайнаўскага павета вядзе ў напрамку школы, будынкаў ахоўнікаў усходняй дзяржаўнай мяжы (раней іх называлі пагранічнікамі), жыллёвага шматсямейнага пасёлка, бара, бензазтанцыі і філіяла нарваўскай фірмы „Пронар".

Мае яна неспадзеўку на тратуары і то не абы-якую. Побач аднаго высокага жылога будынка натрапім на перашкоды — тоўстыя бетонныя парогі (я іх так назваў) перасякаюць тратуар на значнай яго шырыні.

Пешаходы, якія здаўна аб гэтым ведаюць, здалёк іх абмінаюць, бо не ўсе змогуць іх пераступіць. Хопіць на момант быць менш уважлівым, як кажуць, заваронішся, або мець слабы зрок і зачэпішся нагой ды перакулішся. Небяспечныя яны днём, а ўжо ж асабліва ноччу. Вышэйзгаданыя перашкоды на тратуары трэба ліквідаваць, чым хутчэй тым лепш. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — народную пагаворку.

1. шэрсць = 8 _ 14 _ 5 _ 15 _ 17 _ 18 _;
2. горад на Ользе, на польска-чэшскай граніцы = 9 _ 12 _ 6 _ 10 _ 11 _;
3. падлетак у экіпажы судна = 4 _ 3 _ 2 _ 1 _;
4. партнёрка яго = 16 _ 13 _ 7 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Аер, бэж, ежа, Пацей, сапа, цяля, цяцерка, Шоў.

Рашэнне: **Праца цяжкая, але беспрацоўе цяжэйшае.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

**Ніва**
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
**PL ISSN 0546-1960**
**NR INDEKSU 366714**

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 13.10 — 19.10

**(22.03. — 20.04.)** 12-14.10. імпрэзуй, фантастычна адпачнеш і міла правядзеш час. 13-15.10. трэба будзе рашыць нялёгкае. Юпітар прыцягне карысныя нагоды. 12-16.10. не змяняйся ў грознага ваўка, не рыхтуй помсты і даказвання свайёй рацыі. Шукаючы шматлікія культурныя атракцыёны. Людзі будуць табою захапляцца. Не шукай дыеты-цуд, — толькі спорт і здаровая ежа табе памогуць.

**(21.04. — 21.05.)** 12-15.10. можа табе не хапіць сілы і часу на працы. Хапай на ляту нагоды, якія тады паявяцца, бо потым іх не зловіш. Будзеш вельмі творчы, адкрыты на змены. Быкі з першай дэкады маюць шанц здзейсніць сваю мару пра новую працу, якая дасць ім свабоду і магчымасць самарэалізацыі. Калі шукаеш таго адзінага ці адзінай, разглянься сярод калег; але не спяшайся з рашэннем — неўзабаве прыйдзе час на гарачае пачуццё. Не будзь назойлівы, не распытвай і не слухай плётак. 13-15.10. будзеш раздражнены і схільны да непрадуманых рашэнняў. З 18.10. (да 21.10.) справішся на медаль, асабліва ў час экзаменаў.

**(22.05. — 22.06.)** 13-15.10. знакаміты момант на вучобу і экзамены. Спраўна пераможаш жыццёвыя перашкоды, будзеш мець шматлікія нагоды. У пары пагодлівыя дні, але будуць і такія, калі павее холадам. Да 14.10. можа моцна пасавацца ў прафесійным плане ці ў падарожжах. У пачуццёвым жыцці нуднавата; не адбудзецца нічога, чаго ты ўжо не перажыў. Маеш шчасце да людзей, дзякуючы якім далёка зойдзеш.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш зялёнае святло для кампанейскіх спраў. Карыстайся нагодамі сустрэч. 12-14.10. асабліва дбай аб сваё здароўе. Будзеш больш радасны, прыхільны для іншых, адразу паявяцца ніці сімпатыі з незнаёмымі. Грошай хопіць не толькі на раскошу, але і на самаразвой. З 18.10 (да 22.10.) варта наведаць банк і негацыяваць умовы, капіталаўкладанні. Еж вітаміны ў натуральнай форме.

**(24.07. — 23.08.)** 13-15.10. здолееш аформіць кожную цяжкую справу. 13-14.10. уцягнешся ў незабыўную прыгоду. 13-16.10. магчымыя праблемы ва ўзаемным разуменні. 13-15.10. пачуццё можа перавярнуць усё дагары нагамі. Не бойся схадзіць да лекара.

**(24.08. — 23.09.)** 13-16.10. добры час для афармлення спраў ва ўстановах. Заваюеш лепшыя фінансавыя ўмовы. Ёсць такія, хто хоча пагрэцца пры тваёй славе ці ўшчыкнуць крыху з тваіх грошай ці дасягненняў. З 18.10. можаш шмат каго перацягнуць на свой бок. Дзевы з другой дэкады няхай асабліва 15-17.10. падлечацца ў санаторыі.

**(24.09. — 23.10.)** 13-15.10. знакамітыя ўмовы для рэалізацыі планаў. 12-16.10. не навязвай сваёй волі. Будзеш поўны энергіі і волі да дзеяння, а матывы паводзін будуць спантанныя. У фірме сам падымеш перакладзіну, кінешся з выклікамі да канкурэнцыі. Але 13-15.10. твае прапановы могуць быць спрэчнымі. Акладвай пакрысе — назбіраецца немалая сума, прыдасца.

**(24.10. — 22.11.)** Добрыя адносіны са сваякамі і знаёмымі. Тваё жыццё набярэ колераў. Будзеш падабацца. 13-15.10. пазмагаешся са спакусай. З 18.10. хтосьці блізкі можа цябе параніць. Можа, схочаш залегалізаваць сваю пару? 15-19.10. шанцы пагадзіцца з кімсьці, з кім ты даўно пасвараны, а таксама аформіць справы, якія патрабуюць дыпламатычнасці. З 18.10. (да 21.10.) удадуцца лады з кіраўніцтвам.

**(23.11. — 22.12.)** Добрая форма. Але пільнуйся ад прастуды. 12-14.10. шыкуйся на ўдалыя сямейныя сустрэчы. Будзеш моцны і сентыментальны. Стральцы пасля нялёгкай любоўнай гісторыі атрымаюць шанц, каб пачаць нанова. 13-15.10. у пачуццях спрыянне стабілізацыі. Заінвестуй касу. Будзеш цікавіцца медычнымі справамі, нават станеш хадзячай энцыклапедыяй у гэтым плане.

**(23.12. — 20.01.)** 13-15.10. удасца табе здаць экзамены, пазбегнуць памылак. Але 13-16.10. скрытыя ворагі напсуюць табе крыві! 13-16.10., калі ты ў ладах, якія цябе абмяжоўваюць, зможаш вылузацца з рэляцыі. Шматабяцальная прапанова можа паявіцца 18.10. (да 21.10.), але і хутка прапасці. Ініцыятыва 15-17.10. прынясе плады або цікавае супрацоўніцтва. З 18.10. магчымае падарожжа.

**(21.01. — 19.02.)** 13-15.10. здабудзеш штосьці, аб чым марыў. 12-14.10. удалыя імпрэзы і сямейныя ўрачыстасці. 15-19.10. чакае цябе вяртанне ў мінулае, няўдалае, — не ўвойдзеш два разы ў тую самую раку. 13-15.10. — добры час на здабыванне патрэбных кваліфікацый і дазволаў, асабліва калі думаеш пра сваю гаспадарчую дзейнасць. Усміхайся — гэта добры рэцэпт на здароўе і красу.

**(20.02. — 21.03.)** 15-17.10. выявіш свае добрыя бакі і іх выкарыстаеш. Але 13-16.10. можаш адчуваць, што атачаюць цябе адны ворагі. 13-14.10. некаторыя справы могуць табе ўцячы з-пад кантролю. Адважышся на штосьці, аб чым толькі нясмела марыў. Калі думаеш пра сваю дзейнасць, не рабі гэтага адзін. Кашалёк можа засвяціцца пусткай, бо цяжка будзе табе адмовіцца ад паходаў па крамах. З 18.10. (да 21.10.) зоркі раяць табе заінвеставаць. У сваю красу таксама.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Навачэсная Саколка

**Саколку я палюбіла дзякуючы кампазітару Яну Тарасевічу. Ціхае мястэчка над Саколдай музыкант, сусветны вандроўнік, лічыў сваёй сардэчнай бацькаўшчынай. Сюды вяртаўся ў хвіліны дэпрэсіі і творчай немачы, каб нанова зарадзіцца жыватворнай сілай. Любоў да зямлі і мясцовых людзей запісаў у класічным творы «Valse banale», які разам са здымкамі і інфармацыяй (паводле кніжкі «W stronę Tarasiewicza») віднее на новаадкрытай табліцы.**



Едучы ў Саколку, я думала пра людзей, з якімі разам выносілі мы на святло музыку і імя прызабытага кампазітара. Цікава і карысна дзяліцца з імі ведамі, гаварыць пра новыя ідэі і мерапрыемствы. Яшчэ больш цікава, калі ўшанаванне памяці выходзіць з ініцыятывы мясцовых самаўрадаўцаў, гісторыкаў, энтузіястаў рэгіёна. У Саколцы гэта спрацавала як нідзе на Падляшшы. У горадзе ёсць ужо вуліца Яна Тарасевіча, мемарыяльная табліца (на польскай, беларускай і англійскай мовах) і табліца, якая разам з дзевятнаццаццю іншымі стэндамі заяўляе пра гісторыю Сакольскай зямлі.

* * *

22 верасня г.г. у Саколцы панавала сонечнае надвор'е і летняя цеплыня. Сярод сем'яў і гасцей, якія з'ехаліся з цэлай краіны на мерапрыемства, я выглядала Андрэя Гарбуза. Ён сам не прыйшоў на адкрыццё. Я пазваніла, каб даведацца аб прычыне адсутнасці.

— То, кажаце, будзе табліца Яновічу і Варонку? — не хаваў здзіўлення адсутны герой.

— Гэта заявілі ўлады горада, — кажу. — Іх прозвішчы прачыталі пры самым віцэ-прэм'еры Яраславе Говіне.

— Ну, то пабачым, пабачым, — ужо весялей заявіў мой суразмоўца.

Андрэй Гарбуз — энтузіяст мясцовай гісторыі — не быў бы сабой, калі б сярод галерэі славутасцей Сакольскай зямлі не хапіла беларусаў. Гэта ён прапанаваў Яна Тарасевіча, Язэпа Варонку і Сакрата Яновіча. Два апошнія пакуль не маюць сваіх табліц. Сама задума з табліцамі, як усвядоміў мяне спадар Гарбуз, была надта пакручастая і складаная ў рэалізацыі. Нават сам ініцыятар, які ўсё прыдумаў і разгарнуў задуму, канчаткова адмовіўся ад яе, бо кожны хацеў угнараваць сваіх кандыдатаў і не хапіла б Саколкі, каб ім усім устанавіць памятныя стэнды. Дадатковы закалот наводзілі катэгорыі, паводле якіх заяўлялі кандыдатаў для ўшанавання. Доўгі і каларытны спіс узначаліла фундатарка мясціны, то-бок каралева Бона, а завяршалі прозвішчы супярэчлівых выклятых жаўнераў.

— Частка прапанаваных прозвішч не мела ніякага дачынення да Саколкі, — кажа Андрэй Гарбуз, — але людзей немагчыма было пераканаць. Добра, што ў капітул увайшоў прафесар Юзаф Марошак. Ён канчаткова навёў парадак, назначыў катэгорыі і прыярытэты.

Калі глядзіш галерэю выдатных землякоў паводле ключа, прыдуманага прафесарам Марошкам, не відаць хоць бы ценю таго эстэтычнага і ідэалагічнага скрыгату і закалоту, з якім прыйшлося сутыкнуцца стваральнікам і будаўнікам ідэі. Заслужаны пантэон прамаўляе мастацкімі і навуковымі дасягненнямі, лакальным патрыятызмам і шматкультурнасцю рэгіёна. А цікавасць, каб падысці і прачытаць, падбівае эстэтычны выгляд праекта аўтарства Лаліты Бжазоўскай-Роман.







— Я пераканала ўлады горада, каб выйсці з табліцамі на вуліцу, — кажа спадарыня архітэктар, — каб яны прамаўлялі як мадэрны дызайн і гарманічна дапаўнялі прастору горада. Ну, каб было *навачэсна і святова!*

* * *

Інфармацыю пра тое, што на адкрыцці з'явіцца віцэ-прэм'ер Яраслаў Говін, арганізатары трымалі да канца ў таямніцы. Пасля мастацкай часткі, калі выступіла знакамітая паэтэса Леанарда Шубзда, у цэнтры раздаліся гудкі і клаксаны. Яраслаў Говін, пад захапленне сакольскіх улад, з'явіўся разам са сваім калегам, паслом Мечыславам Башко. Гаварылі пра значэнне патрыятызму і пераемнасць пакаленняў. Радасці і ўзрушэння не хавала Эва Кулікоўская, бургамістр Саколкі.

— Мы рашылі паказаць турыстам нашых славутых землякоў, — кажа спадарыня бургамістр, — бо дзякуючы іх дасягненням нас ведаюць у свеце. Свет таксама цягне ў Саколку. З году ў год усё больш і больш у нас турыстаў. Таму мы выходзім насустрач, папаўняем атракцыёны праз адукацыйныя і культурныя праекты. Нам вельмі залежыць на супрацоўніцтве з Беларуссю. І ёсць ад гэтага двухбаковая карысць. Усе гэта бачаць і ведаюць.

Сяброўская атмасфера культурнага свята спрыяла, каб пагаварыць пра аднаўленне намагільнага помніка Яну Тарасевічу. Бо калі думаць у катэгорыі іміджу — дык гэта параза па поўнай праграме. Магілка кампазітара — найгоршая на ўсіх могілках. Ці падымуць у сардэчным горадзе музыканта яшчэ такі выклік — час пакажа.

**(гак)**

**Фота Ганны Кандрацюк і Уршулі Шубзды**

ISSN 0546-1960